РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 30 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №34 (143), 24 ЖНІЎНЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



На пытанне "Што хвалявала Вас на мінулым тыдні?" нашай ужо традыцыйнай рубрыкі "Алё, слухаем вас!" адказваюць чытачы "Культуры".

■ Стар. 2

Навіны са свету тэатра, музыкі, кіно.

■ Стар. 2,6,8

**АРХІЕПІСКАП ЭМІГІДЫЮШ ДЖ. РЫЖЫ: "Я АБВЯШЧАЮ ВАЙНУ ПРАВАСЛАЎНАЙ І КАТАЛІЦКАЙ ЦЭРКВАМ"**

Няварта крывіць душой: да самага апошняга часу пра існаванне Беларускай народнай царквы на самой Беларусі ніхто і не падазраваў.
Пра дзейнасць і мэты гэтай нязвыклай да нашага слыху канфесіі чытайце на

■ стар. 5

**"ЖУРНАЛІСТ МЯНЯЕ ПРАФЕСІЮ"?**

Інтэрв'ю з вядомым тэлепубліцыстам, які, як аказалася, яшчэ і мастак.

■ Стар.6

**TV-праграма:**

БТ, "Астанкіна", канал "Расія", Санкт-Пецярбург,

■ Стар.7

**КАСКАДЗЁРЫ МАНЕЖА**

"Жакеяў часта запрашаюць на трукавыя здымкі ў кіно, і тады хлапчукі просяць у іх аўтографы, на імгненне чапляе іх сваім крылом слава. А жакеі смяюцца і жартуюць, таму што ведаюць, што адзін раз выканаць трук намнога прасцей, чым паўтараць, няхай больш лёгкі, з вечара ў вечар на манежы".

■ Стар. 8

# ДЗІ-КУ-НЫ

Трывога і боль — куды мацней за фізічны — агарнулі гэтую жанчыну, калі з'явіліся лісічкі. Недалёка ад лесу атабарыўся пункт па іх зборы. Казалі, што тыя лісічкі аж у Германію пойдуць, бо — экалагічна чысты прадукт, смачны і вельмі падабаецца немцам, а ўвішныя кааператары маюць за гэта і дойчмаркі, і даляры.
Праўда, самі арганізатары лісічак не збіралі, а мабілізавалі на гэтую справу тамтэйшае насельніцтва, як кажуць, ад малога да старога. Спакусілі проста і незваротна: за здадзены кілаграм лісічак давалі два кілаграмы цукру. І што тут пачалося! Гэта было не збіранне — выдзіранне, выкопванне, выграбанне, называйце як хочаце, сутнасць не зменіцца, бо ў ход ішлі не толькі рукі, але кіі і нават граблі...
Ці вырасце што наступным летам на гэтым месцы, ці адыдзе, ажыве, зазеляне зноў шаўкавісты мох? Адзін Бог ведае.
Такіх нарыхтоўшчыкаў Зоя Аляхновіч назвала дакладна: дзікуны.
У яе, Зоі Аляхновіч, быў невялічкі загон бульбы. На ўскрайку лесу. Усе гады гэты лапік зямлі лічыўся нічыйным. Увесну яна пасадзіла там бульбу — усяго толькі дваццаць кусцікаў і цягнулася ўгору. Не дзеля спажытку садзіла іх —дзеля аднаго: каб супрацьстаяць жыццёвым абставінам і не злегчы, не скарыцца заўчасна цяжкай хваробе. Бульба расла на зайздрасць, ужо ў ліпені клубяні былі з добрае гусінае яйка.
А нядаўна яе нехта выкапаў. Усю. Не пакінуўшы ні каліўца, ні бульбінкі. Зоя Анатолеўна і раней заўважала, што кусты нехта падрыйвае. Падумала: дзікі або краты. Што са звера возьмеш?!

Але дзікі тут не пры чым. Дый іх усё менш і менш застаецца ў нашых лясах. Як, дарэчы, ласёў і баброў. Знікаюць ласі, знікаюць дзікі, а прычына простая: на іх па-дзікунску палююць дзі-ку-ны...
Вось сыты, вальяжны "дзік" у замежным спартовым касцюме пад'язджае на легкавіку да ракі або да возера. Тут жа памыў яго — і каляровая плеўка бензіну і масла зазіхацела на паверхні вады. Але ад гэтае плеўкі гіне шмат што жывога. Пад ёю нішто не расце, не развіваецца. Гнаявая жыжка з фермы або брудная вада з прадпрыемства сцякае ў раку — і ўжо не водзяцца тут ракі, менее рыбы. Пакінулі ў лесе вогнішча, кінулі запалку або непатушаны недапалак — і шугае пажар. Гараць дрэвы, трава, гінуць птушкі, звяры, вусякі, ягаднікі, грыбніца. Усё гэта — сляды дзікуноў. Нашы з вамі, чалавечыя.
Ці ж чалавечыя?

Алена ТРУСАВА

# СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

## СВЯТА НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

***Сёлета на Беларусі ўпершыню святкуецца Дзень беларускага пісьменства і друку. Гэта свята будзе адзначацца штогод у першую нядзелю верасня. У яго праграме шмат мерапрыемстваў. Сярод іх:***

**27-30 жніўня, 3 верасня** — навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў" з Непагаснай Лампадай Духоўнасці. Экспедыцыя пачнецца ў Мінску малебнам у Святадухавым кафедральным саборы. Далейшы шлях экспедыцыі: Жыровічы—Слонім—Баранавічы—Святое поле (Сталавіцкі с/с Баранавіцкага раёна)—Навагрудак—в.Лаўрушава (Навагрудскі раён)—Мінск—Полацк.

**29 жніўня — 3 верасня, Мінск** — на праспекце Машэрава, 11, будзе экспанавацца выстава беларускай прэсы, перыядычных выданняў беларускай эміграцыі ў краінах блізкага і далёкага замежжа. Адкрыццё выставы ў 15.00.

**30 жніўня — 4 верасня, Мінск** — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі будзе экспанавацца выстава старадрукаў, рукапісаў і рэдкіх выданняў "Гартаючы вечныя старонкі. Беларускае пісьменства праз стагоддзі". Адкрыццё выставы ў 15.00.

**2 верасня, Друцк (Талачынскі раён)** — адбудзецца свята гэтага старажытнага горада. Арганізатар свята — Беларускі фонд культуры.

**2 верасня, Мінск** — у Нацыянальным беларускім тэатры імя Я. Купалы ў 18.00 адбудуцца ўрачыстае пасяджэнне і святочны канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.

**3 верасня, Полацк** — адбудзецца сустрэча Непагаснай Лампады Духоўнасці і малебен з гэтай нагоды ў Спаса-Еўфрасіннеўскім жаночым манастыры з удзелам мітрапаліта Філарэта. Сярод мерапрыемстваў, якія будуць праведзены ў гэты дзень, найбольшую цікавасць выклікае "круглы стол" па праблемах беларускага пісьменства і друку ў Музеі гісторыі беларускага кнігадрукавання.

**4 верасня, Полацк** — будзе праведзена агульнарэспубліканскае свята — Дзень беларускага пісьменства і друку. Сярод мерапрыемстваў свята — гала-канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, Свята дзіцячай кнігі, тэатралізаванае дзейства "Святочная друкарня", вернісажы і інш.

**4 верасня, Нясвіж** — адбудзецца Рэспубліканскае свята паэзіі, якое ладзяць Саюз пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь.

**4 верасня, Мінск** — у Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага ў 12.00 пачнецца фестываль беларускай прэсы.

**Наш кар.**




**Іван ЧАРОТА, дацэнт БДУ, славіст:**

— Што ні тыдзень, то новыя сюрпрызы падкідвае нам нашае жыццё. А з імі і новыя хваляванні і падставы для стрэсаў. Але ж усе хваляванні перманентныя, і вылучыць якое-небудзь — з асабліва запаўшых у душу — вельмі складана. На мой погляд, ад усіх гэтых стрэсаў, што выпадаюць на нашы бедныя галовы, працэнтаў семдзесят з нас павінна даўно б ужо вымерці. Але ж, пабач, мы — адаптаваліся. І хоць і не да смеху зараз, анекдот адзін прыгадаўся — з чорнага гумару, праўда. Дык вось. Прыгаварылі мужыка да смяротнага пакарання праз павешанне. Накінулі таму пятлю на шыю, выбілі зэдлік з-пад ног... Пабрыкаўся трохі гарамыка ў паветры, пабрыкаўся і... раптам сціх. На што кат кажа: "Вунь яно як — адаптаваўся ўжо!"

Так і ў нас стан адаптавання праходзіць у кожнага па рознаму.

Каго з нас, напрыклад, не хвалявалі перспектывы дэнамінацыі грошай. Падзея тыдня! Ды яшчэ якая! Добра, па нуліку паўбіралі. Толькі я быў бы не супраць каб іх пара-тройка знікла і з магазінных цэннікаў. І тады кніжка дзіцячая каштавала б пяць капеек, а энцыклапедычны слоўнік, напрыклад, пяць рублёў. Ну як раней!

А тут у мяне ў самога кніга ў выдавецтве на наступны год запланавана. Ну, чым не падстава для хвалявання! І гэта ўжо праблема не аднаго толькі мінулага тыдня. Паколькі кніга беларускамоўная, то пяцьдзесят працэнтаў выдаткаў на сябе бярэ дзяржава. Вось і ламлю галаву, дзе ўзяць астатнія пяцьдзесят працэнтаў на выданне. Толькі ж каб здабыць нестаючых грошай, мне трэба пяць гадоў працаваць не пакладаючы рук і пры гэтым не есці і не піць.

Бацькі старыя за горадам жывуць. Бывала, едзеш да іх, у чым па гаспадарцы дапамагчы, гасцінца якога сталічнага прывязеш. Таго ж самага хлеба (пра вясковае абслугоўванне нам усім вядома). А тут ужо і хлеб раскошай стаў, ды білеты падаражэлі. Толькі ж ад гэтага нікуды не ўцячэш. Гэта так у чым-небудзь адмовіць сабе можаш. А тут...

Карацей кажучы, стрэс на стрэсе едзе і стрэсам паганяе.



**Наталля КРАСНОВА, загадчык аддзялення нованароджаных Мінскага абласнога радзільнага дома:**

— Надвор'е сапсавалася! І душу смутак нейкі агортвае. Здаецца, ні палітычныя з'явы, ні павелічэнне цэнаў — нішто так не ўплывае на настрой чалавека, як надвор'е. А таму яшчэ больш падпадаем розным жыццёвым стрэсам.

Але ж я чалавек жыццярадасны і аптымістычны, калі можна так сказаць. Калі ў цябе добрая сям'я, любімая праца, то, паверце, і вакол цябе стваераецца абаронная аўра супраць стрэсаў. А тое, што грошай не стае — дык пакажыце хаця б аднаго сумленнага працаўніка, які б у шаўках і золаце купаўся. Ну, у рэшце рэшт, не хлебам адзіным...

Не толькі адна я, усё нашае аддзяленне на працягу тыдня жылі правядзеннем акцыі "Маці — дзіця". Гэта значыць, што ад самага свайго нараджэння немаўля перадаецца на рукі маці. А не тое, як было раней: парадзіха бачыла сваё дзіця шэсць разоў на дзень і тое — у час кармлення. А зараз не! Тым больш, што нованараджэнне... вядзенне становіча ўплывае як на здароўе жанчыны, так і малога. Вельмі спрыяе стану адаптавання.

У самой дзеці ўжо дарослыя — старэйшаму сыну дваццаць гадоў, сам рыхтуецца стаць бацькам. А, значыцца, у хуткім часе быць мне бабуляй. Нашая сям'я пабольшае на аднаго чалавечка. А разам з ім прыдуць і новыя клопаты. Толькі ж, паверце мне, клопаты гэтыя прыемныя.

**Ля тэлефона дзяжурыў Міхась РЭВУЦКІ**

## КОМПАС «КУЛЬТУРЫ»

**Жнівень**

У серыі "Каўчэг" (андэграўндная паэтычная серыя, не блытаць з галерэяй "Каўчэг") выйшаў зборнік "Беларускі рок'н'рол: Тэксты". Частку сродкаў на выданне вылучыла Беларускае аб'яднанне студэнтаў (Беласток). Дарэчы, серыя заснавана ў 1990 г. А. Глёбусам, Дз. Строцавым і Ю. Цыбіным, выдаецца без дапамогі з боку афіцыйных органаў і структур, кніжкі гэтай серыі карыстаюцца попытам замежных бібліятэк — партнёраў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па міжнародным кнігаабмене.

**15 жніўня**

У фонд Аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі паступіла першае выданне кніжкі Я. Купалы "Жалейка" ( 1908 г.). Гэта другі асобнік у фондах бібліятэкі. Ён набыты праз букіністычную краму за 1,5 млн. рублёў.

**30 жніўня**

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі планующа адкрыццё выставы твораў засл. дзеяча мастацтваў РБ У. Тоўсціка. Будзе прадстаўлена серыя "Святло і цені", якая вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

**2 верасня**

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі планаецца правесці прэзентацыю салона-галерэі, дзе будуць выстаўляцца на продаж работы беларускіх мастакоў.

**1 верасня**

На плошчы перад Палацам моладзі, які знаходзіцца на Старавіленскім тракце, 41, а 19 гадзіне адбудзецца традыцыйны фэст "Рок па вакацыях" з удзелам лепшых беларускіх рок-гуртоў "Крама", "Уліс", "Новае неба", "Мроя", "Палац", "Зіндан", "Зарціпо" ды інш. Фэст ладзяць студыя "Беларуская маладзёжная" і фірма "Дайнова".

**16 жніўня**

У галерэі "Каўчэг", што знаходзіцца ў Траецкім прадмесці, адкрылася выстава жывапісу і графікі віцебскага мастака А. Ісачэнкава. Нядаўна мастак за ўласны кошт выдаў кнігу сваіх літаратурных твораў, якія ён абагульніў назвай "Архангел ІІРО 686636".

### СВІЦЯЗЯНСКІ ЛАНДШАФТНЫ ЗАПАВЕДНІК

Ён знаходзіцца ў Свіцязянскім лясніцтве Навагрaдскага лясгаса, на тэрыторыі Навагрaдскага і Карэліцкага адміністрацыйных раёнаў.

У адпаведнасці з Пастановай Савета Міністраў БССР ад 18.06 1970 года N 179 дзяржаўным ландшафтным заказнікам рэспубліканскага значэння аб'яўлены возера Свіцязь і навакольныя лясы Свіцязянскага лясніцтва плошчай 926 гектараў. Па лесараслінным раянаванні заказнік уваходзіць у склад Ваўкавыска-Навагрaдскага комплексу лясных масіваў Нёманска-Перадпалескага раслінннага раёна.

Самое возера Свіцязь знаходзіцца ў цэнтры Навагрaдскага ўзвышша, на яго паўднёвым схіле. Возера не мае адкрытых вадасцёкаў, што сюды ўпадаюць, але знаходзіцца ў водападзеле дзвюх невялікіх рэчак — Свароткі і Безыменнай.

Рэпартаж у нумар

## ВОЗЕРА ЦІХА ПАМІРАЕ...

Плошча Свіцязі — 177 гектараў, дыяметр — 1,41 і 1,53 кіламетра. Найбольшая глыбіня яго 16 метраў.

... Блакітнае возера — перліна Беларусі, яно апісана ў легендах і паданнях, вершах і прозе, адлюстравана на палотнах мастакоў. Свіцязь апяяў у сваіх неўміручых творах Адам Міцкевіч, які калісьці блукаў па ягоных берагах...

### ШТО ЗАБІЦЬ КАМАРА НА БАЛОЦЕ...

Прыгажосцю возера не толькі захапляліся, але і выкарыстоўвалі ў далёка не высакародных мэтах, эксплуатавалі і разбазарвалі ягоныя навакольныя багацці. Аб гэтым распавёў былы ляснічы Васіль Логаш, які аддаў працы ў запаведніку дваццаць чатыры гады свайго жыцця.

Калі пісаў тут свае знакамітыя паэмы Адам Міцкевіч, гаспадарыў у наваколлі нейкі пан Незабытоўскі. Заключыўшы кантракт з лесапрамыслоўцамі, даў загад на высечку унікальных дуброў. Згадаю яшчэ адно прозвішча — Канстанцін Война. Гэты жорстка ставіўся да сялян, якія вылоўлівалі рыбу, палявалі. За самавольства іх чакалі штрафы, катаванні, а то і каталажка. Сам жа Война, выкапаўшы канал, пусціў ваду з возера на раку, дзе стаялі млыны. Плату за ваду ў млынароў пан браў вялікую. Так Война папраўіў сваё фінансавае становішча. А возера стала паміраць...

Прайшлі дзесяцігоддзі, пакуль Свіцязь не набыла першапачатковы ўзровень. Як паведамляе зборнік "Скарбы прыроды" (Варшава, 1932 год), у той перыяд заказнік быў створаны для прыгажосці ландшафта і аховы рэдкай прыроды, рэліктавай расліннасці, а таксама ўвекавечання імя Адама Міцкевіча.

У даведніку па Навагрaдчыне (выданне 1934 года) паведамляецца, што з паўночнага боку возера існавалі два прыватныя пансіянаты, якія належалі польскім вайсковым асаднікам Струміле і Фрыдрыхсавай-Кульвец. Шумна бавіла тут час высокае чынавенства з Варшавы, Гданьска, Кракава. За некалькі гадоў была амаль што знішчана фауна заказніка...

У канцы 60-х гадоў высілкамі трох раёнаў тут пабудавалі Дом адпачынку для калгаснікаў, але не знайшлося гаспадара гэтаму унікальнаму месцу. Яно перайшло ў распараджэнне Савета па кіраванні курортамі прафсаюзаў.

З гэтага часу пачалася "культурызацыя" возера з боку тых, хто адпачывае, і мясцовага насельніцтва.

У 1970 годзе выйшла пастанова ўрада аб заказніку: вакол возера Свізяць забараняліся выпас жывёлы, высечка лесу, усялякае будаўніцтва, карыстанне лодкамі, разбіўка палатак, паляванне, развядзенне вогнішчаў.

Аднак мала хто з тамтэйшых жыхароў і прыезджых ведае пра такую пастанову. Возера ўжо не вытрымлівае нагрузкі. Сюды прыязджаюць навагрaдцы. Да Свіцязі прылягае восем пасёлкаў, у зоне заказніка знаходзяцца два піянерлагеры, пансіянат.

СІТУАЦЫЯ

# У "кайфе" ад "Гербалайфа"

У стольным горадзе Піцеры гэтым даўно ўжо перахварэлі. І маладыя людзі ў пошуках хаця б якой-небудзь больш ці менш аплочваемай працы, змяшчаючы аб'явы ў рэкламных газетах, у дужачках пазначаюць — "Гербалайф" не прапаноўваць!". Зараз наступіла чарга Беларусі — насоўваецца сапраўдны гербалайфаўскі бум. Некаторыя з нас гэтае ўжо, напэўна, адчулі на сваёй скуры (жыхары вялікіх гарадоў, у прыватнасці -- да перыферыі пакуль што не дабраліся). І хто з мінчукоў не сутыкаўся на вуліцах сталіцы з натоўпамі "значкастых", вымуштраваных хлапцоў і дзяўчат, якія чапляюцца ледзьве не да кожнага прахожага з нейкімі прапановамі. Гэта — "гербалайфаўцы" — распаўсюджвальнікі амерыканскага лекавага прадукта.

Асабіста я ў чароўныя здольнасці "Гербалайфа" веру роўна настолькі, як і ў прышэсце іншапланецян. А, значыцца, нічога супраць не маю і переканаюся канчаткова толькі тады, калі адчую ўсё на сваёй скуры. І гэтым ні ў якім разе не хачу абразіць людзей, якія ўжываюць яго, часам чапляючыся за прадукт, як за апошнюю надзею на выратаванне.

Толькі ж хто гэтыя маладыя людзі, па выглядзе якіх іначай чым за "хлопчыкаў-мажораў" не прымеш, што ўсклалі на сябе, так бы мовіць, місію па выратаванні чалавечых жыццяў? А даведацца пра гэта — "найн проблем". Дастаткова табе прайсціся па Мінску ў пошуках зялёных значкоў на вопратцы прахожых з як мага больш разяўленым ротам нібы ад неймавернага здзіўлення. І запэўніваю, поспех будзе забяспечаны. На твае хітрыкі клюнуць, але, хутчэй за ўсё, на кручок сядзеш ты. Спачатку цябе запросяць на нейкую вечарыну, якую ты абавязкова не прамінеш наведаць, ну, а пасля ўжо, як правіла, справа майстэрскай падсечкі. Клюнуўшы на залатыя горы, ты трапляеш у путы, якія выбраў для сябе сам.

Можа, я перабольшваю. І ўсё не так дужа страшна, як гэта здаецца на першы погляд. Мне, саўку, з больш ці менш усталяванай свядомасцю, цяжка прыняць ці зразумець жыццё і жыццёвыя прынцыпы, што навязваюцца нам з-за "бугра", у часы неразбярыхі ў дзяржаве. Штучным гэтае навязванне назваць цяжка, бо многія маладыя людзі звяртаюцца ў кампанію "Гербалайф" ад безвыходнасці і цалкам свядома... І пра тое магу меркаваць са слоў сяброў, знаёмых, што папоўнілі "гербалайфаўскія" шэрагі, па тых зменах, якія адбыліся з імі, і па свайму няўдаламу вопыту.

Не, мяне ніхто сілай за вушы туды не цягнуў. Прыйшоў па сваёй волі, дзеля цікавасці, на адну з прэзентацый ( чамусьці яна называецца менавіта так — а я б сказаў, агітацыйнае шоў) па запрашэнні "значкастых" з вуліцы, абнадзеіўшых, што такія, як я, ім вельмі патрэбны, пры гэтым не даўшы запытацца, а ці патрэбны яны асабіста мне?



За самім іншаземным слаўцом "прэзентацыя" разумеецца зусім не тое, што мы звыкліся разумець. Дарэчы, мінская кампанія "Гербалайф" праводзіць іх па некалькі разоў на тыдзень у розных кутках сталіцы. У Доме настаўніка, напрыклад.

Шчыра кажучы, у сваёй працоўнай уніформе — зацёртых джынсах -- адчуваў сябе ніякавата сярод фірмовых хлопчыкаў і дзяўчынак, што сабраліся на чарговы "гербалайфаўскі" фэст. Але, як кажуць, за прагляд грошай не бяруць... пакуль.

Уявіце сабе карціну: слых рэжа на ўсю моц урубленая песня ў выкананні Ціны Цёрнэр, а перад табой з шалёнымі вачыма "гладкая" моладзь робіць нейкія выбрыкі, ускідваючы ўгору рукі, нешта ўзрушана выкрыкваючы. Адчуваецца панаванне сытасці і задаволенасці.

Ну, а далей ледзь не з байцоўскімі крыкамі на сцэну падымаліся хлапцы і дзяўчаты і, як па завядзёнцы, распавядалі пра нядаўнія свае балячкі і сённяшнія поспехі. Першы, другі, дзесяты, пятнаццаты...

І першае ўражанне — што ты прысутнічаеш на зборышчы нейкае секты пры выкананні культавага абраду. І ўсе ўдзельнікі падобныя не іначай, як на зомбі.

Гэтая моладзь абрала свайго Бога, свайго настаўніка — імя якому "Гербалайф". І сваё жыццё зараз успрымае не іначай як місіяй (улаўліваеце, жывыя пасланнікі) са сваімі не вельмі хітрымі пастулатамі: есці "Гербалайф", насіць значкі "Гербалайф" і размаўляць з людзьмі пра "Гербалайф". І толькі. І гэта натхнёна вылятала ледзь не з вуснаў кожнага выступоўца. Амерыка паабяцала ім хуткае ўзбагачэнне. Вялікі "Гербалайф" беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак і корміць, і апранае. Яны неўзабаве ператвараюцца ў жывых марыянетак, падуладных грошам.

... І зноў што ёсць моцы ўрубаецца круты музон — першая частка незвычайнага шоў заканчваецца. А хлапцы і дзяўчаты працягваюць выбіваць абцасамі нейкі рытм. ... Надышоў час пажынаць плады сваёй працы. І ўвага скіравана на новых прысутных у зале: уразіла, захапіла?

Не, вас не прымушаюць гвалтам есці прадукт тыбецкай медыцыны. Толькі, калі вы прыйшлі сюды, вам рабіць выбар — быць ці не быць з імі.

А перспектыва больш чым заманлівая — даляраў гэтак сто ў тыдзень. Каго не прывабяць такія грошы? А рабіць жа ж усяго — нічога. Толькі, памятаеце: есці "Гербалайф", насіць значкі ды і людзям мазгі затлуміць. І светлая будучыня табе забяспечана. Толькі да гэтага, напачатку, унясі ў кампанію патрэбны ўзнос — 150 даляраў. Далібог, сума па сённяшніх паняццях не дужа маленькая. На што табе выдаюць упакоўку самога прадукта, а ў хуткім часе і пасведчанне з камп'ютэрным кодам на права "гербалайфаўцам" звацца. Толькі дзе простаму студэнту ці ўвогуле маладому чалавеку з ягоным жабрацкім існаваннем узяць гэтыя запаветныя "зялёныя"? А на ўсё пра ўсё табе адводзяць пяць дзён. Затое пасля...

Вось так і праходзяць ночы ў роздумах, дні ў пошуках, і, у рэшце рэшт, удаецца іх перазапазычыць пад вялікі працэнт. А значыцца, асабіста адчуць на сабе вялікую сілу прадукта, нібыта за так падоранага кампаніяй, давядзецца во яшчэ як не хутка — усё пойдзе на раздачу даўгоў. Але ты ўжо ў шэрагах "гербалайфаўцаў". Цябе ўжо цяжка будзе адрозніць ад тваіх новых сяброў. Той жа позірк, тыя ж рухі, тыя ж завучаныя фразы. Неўзабаве для сябе, ты становішся рабом ідэі ўзбагачэння.

Мне дастаткова паглядзець на сваіх знаёмых, якія трапілі на служэнне гербалайфаўскаму ідалу. Яны кажуць, што прадаваць "Гербалайф" — гэта іх місія. Галоўная наканаванасць у жыцці. Расказваюць пра місію тыя, хто ўжо паспеў скалаціць невялічкі капітал і зацягнуць у кампанію новых хлапцоў і дзяўчат, і цяпер мае за іх кошт няслабы прыбытак. Тым часам "місіянеры" растуць па нейкай міфічнай службовай лесвіцы. За што таксама трэба плаціць шалёныя грошы — нешта каля чатырох тысяч даляраў. І зноў пачынаюцца бяссонныя ночы ў пошуках запаветных "зялёных" і навічкоў для кампаніі як залог валютных паступлленняў, каб падняцца на ступень вышэй. Цябе зацягвае ўсё глыбей і глыбей. І тут ужо сам прадукт ролі не адыгрывае. Ідэя зводзіцца да нуля. Усё гэта вельмі нагадвае гульню ў некалі распаўсюджаныя "Акцыі" па пошце ці нядаўна нашумелы скандал з АТ "МММ": хто паспеў, той і з'еў.

Але ты ўжо эліта. І гэтай элітай становяцца былыя настаўнікі, артысты... Хто ведае, можа, ранейшае прызначэнне іх у жыцці было больш важнае, чым зараз набіваць кішэні грашыма, разважаць аб місіі і біцца ў экстазе пад заходні "музон". Але...

Толькі гэта намнога больш сур'ёзна. Працэс замбіравання пайшоў. Новае пакаленне пачынае самааддана верыць у новых ідалаў, як некалі іхнія бацькі верылі ў светлыя ідэі камунізму. "Гербалайф" з яго адладжанай сістэмай узяўся запоўніць брэш у ідэалагічным выхаванні маладых...

... У перапынку давялося пазнаёміцца з маладым прадстаўніком кампаніі: высакамерным і ганарлівым. Ягоная будучая прафесія — выкладчык, якім яму так і не суджана стаць. І ён не вінаваты, што жабрацкая краіна падштурхоўвае яго і ягоных равеснікаў да жабрацкага існавання. Толькі зараз ён мільянер.

Але напэўна я занадта шмат задаваў яму лішніх пытанняў. Ад чаго майму суразмоўцу са мной стала яўна нецікава.

Ён заклапочана абвёў шумную залу вачыма і сцвердзіў:

— У нас тут капіталізм, разумееш?..

А я не разумеў... Ці не жадаў гэтага рабіць.

Цяпер ён ужо ўвогуле захацеў ад мяне адвязацца і, не стрымаўшыся, нешта чаркануў на запрашальніку, грэбліва (мо' падалося) працягнуў мне, маўляў, тэлефануй...

Я так і не затэлефанаваў. Мне не трэба такога камун.., цьфу ты, капіталізму!

**Міхась РЭВУЦКІ**

## ЯК ДАПАМАГЧЫ ВОЗЕРУ?

Паспрыяла папулярызацыі возера пабудаваная ў недалёкім часе аўтатраса Мінск-Баранавічы. Аўтастаянка (платная), разлічаная на 50 машын, не ў стане змясціць каля 300 аўтамабіляў, што звычайна прыпыняюцца тут. Мінаючы шлагбаўмы, спецыяльна выкапаныя канавы і забараняючыя загародкі, уладальнікі "стальных коней" накіроўваюцца ў лес, вышукваючы ўсё новыя і новыя шляхі да прыгажуні Свіцязі.

Лясніцтва ўжо проста не ў стане весці няроўную барацьбу з парушальнікамі, ахоўваць, як след, нацыянальную каштоўнасць, даводзіць да кожнага правілы "карыстання" запаведнікам. Рэйды са складаннем пратаколаў мала прыносяць карысці. Гэта тое ж, што забіць аднаго камара на балоце... Галоўны клопат ляснічых — сачыць за незаконнай высечкай, абнаўленнем і аздараўленнем лясоў.

А паток людзей сюды з кожным годам павялічваецца. Пансіянат ахоўваюць міліцыянты, дзяжураць там і прадстаўнікі ДАІ, а машын — як было шмат, так і ёсць.

— Усе праблемы можна было б вырашыць адным, як кажуць, махам, — лічыць малады ляснічы Міхась Мацієвіч, — закрыўшы аўтастраду на ўчастку заказніка і зрабіўшы дарогу ўздоўж ягонай мяжы. Праект такі распрацаваны, але ж... Жыццё настойліва патрабуе добраўпарадкаваць месцы адпачынку. Зараз жа склалася проста жахлівая сітуацыя. Каля возера няма туалетаў. Пра тое, што навокал робіцца, прабачце, нават не хочацца гаварыць...

... А вада ў Свіцязі асаблівая, мяккая, дзякуючы глыбінным крыніцам і рэліктавым відам воднай раслиннасці. Адбываецца яе натуральнае ачышчэнне і фільтраванне. Па гідрахімічным саставе вада набліжаецца да дыстыліраванай. Возера не "цвіце", бо дно яго пясчанае. Але калі не прыняць тэрмінова ніякіх захадаў, можа адбыцца непапраўнае. На тэрыторыі пансіяната — трэба ж да такога дадумацца! — будуецца гаспадарчы двор, у які будуць уваходзіць свінарнік, кацельня, гаражы, склады... Хто прыняў такое рашэнне — у сотні метраў ад блакітнай прыгажуні (з ухілам рэльефу да возера) распачаць такое!

І яшчэ што выклікае трывогу. Зараз ідзе змена пародаў дрэваў у лесе. Яна адбываецца раз на 70 — 80 гадоў. Ёсць пагроза, што могуць загінуць старыя і захварэць новыя, яшчэ з неўмацаванай каранёвай сістэмай дрэвы. Змяняюцца клён, граб, дуб, але яліна памірае...

Загінуў дуб, якому было 450 гадоў і пад якім любіў адпачываць Адам Міцкевіч. Застаўся толькі магутны пень, усім нам у дакор, ды словы паэта, што захавалі прыгажосць роднага краю, дзякуючы якім мы можам нібыта ў машыне часу перанесціся ў мінулае стагоддзе і разам з вялікім земляком захапляцца красою нашай прыроды: "А глянуць бы наўкол — як вокам скінем, — бы мора ў марыве блакітна-сінім, — Літоўскія лясы, дзе хмель зялёны абвіў вянком чарэмшыны і клёны; І арабіны ў гронках, як пастушкі ў чырвоных пацерках; пруты-вітушкі ляшчэўніку, нібы жазло менады, убранае ў арэшкі для прынады... З ускрайку поля мажныя і цікаўныя таполі сюды, каб змога, беглі па-суседску, і дуб на ўзлессі чуб па-маладзецку ўстапырыў — зараз гайсану к гулякам, хоць векам пяцісотгадовы з гакам!"...

**Жана МАЁРАВА**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



ВОДГУЛЛЕ

# СІМФОНІЯ ... НА ЧАРАПКАХ

***Хто-небудзь са скептыкаў можа запярэчыць: "Кіньце! Які абвуглены чарапок можа натхніць паэта на высокую паэзію, а высахлы чэрап стварыць чалавека ва плоці, з душою?!" Бяруся хоць бегла, але на прыкладах паказаць, што археалагічныя матэрыялы даволі часта выступаюць як чыннікі ў творах мастацтва.***

Упершыню вынікі археалагічных раскопак скарыстаў у жывапісе рускі мастак Карл Брулоў у вядомай карціне "Апошні дзень Пампеі" (1830г.). Другі мастак, таксама з улікам вядомых яму на той час археалагічных звестак, Віктар Васняцоў, зрабіў роспіс фрыза "Каменны век" у Гістарычным музеі ў Маскве. Яго брату, Апалінару Васняцову, археолагу і пачынальніку гістарычнага краявіду, заснаванага на мастацкім асэнсаванні матэрыяльных крыніц, належыць карціна "Масква на пачатку XVII стагоддзя". Мастаком-археолагам быў і Мікалай Рэрых. У гэтым пераконваюць ягоныя творы: "Пачатак Русі. Славяне", "Вястун", "Заморскія госці", "Горад будуецца". Апошні твор яўна нарадзіўся пад уплывам ноўгарадскіх раскопак, у якіх удзельнічаў аўтар. Вулічныя маставыя, зрубы і вастраколы на гэтай карціне зіхацяць смаляной свежасцю, нібы толькі-толькі ўскрытыя ў вільготным культурным пласце...

А чэшскі мастак Здэнек Бурыян і археолаг Ёзэф Аўгуста на падставе вынікаў сусветнай палеазаалогіі і археалогіі змаглі аднавіць найстарадаўні пласт гісторыі Зямлі. Таленавіты, жывы аловак Бурыяна вярнуў з небыцця і выявы велізарных страшыдлаў мезазойскай эры, і аблічча першых людзей...

Цікавыя вынікі могуць атрымацца, калі ў адной асобе спалучаецца археолаг, антраполаг і скульптар. Менавіта такім майстрам быў вядомы вучоны Мікалай Герасімаў. Гэта ён распрацаваў метад пластычнай рэканструкцыі аблічча чалавека па чэрапе. Гэта ён паказаў нам найстаражытнейшых прадстаўнікоў чалавецтва: пітэкантрапа, сінантрапа, неандэртальца, краманьёнца. Ім жа рэканструяваны аблічы вядомых гістарычных асобаў сярэднявечча. Гэта скульптурныя партрэты Яраслава Мудрага, Андрэя Багалюбскага, Усевалада Вялікае Гняздо, Івана Грознага, Улугбека, Цімура і іншых.

На Беларусі таксама знайшліся паслядоўнікі Герасімава: антраполаг Алесь Кушнер, этнограф Ігар Чаквін і скульптар Леанід Яшэнка. На падставе матэрыялаў, сабраных падчас археалагічных раскопак, імі зроблена каля 20 рэканструкцый скульптурных бюстаў-партрэтаў, у тым ліку чалавека эпохі бронзы, прадстаўнікоў розных груп старажытнага насельніцтва X — XIII стст.: крывічоў, палачан, радзімічаў, дрыгавічоў, яцвягаў, жыхароў Наваградка, Слоніма, Полацка. Дзякуючы іх плёну сёння нібы наяве можна ўбачыць, як выглядалі і мужчыны воіны, і прыгажуні далёкіх часоў.

У беларускім жывапісе археалагічныя сюжэты выкарыстаў, бадай упершыню, мастак Язэп Драздовіч. На пачатку дваццатых гадоў нашага стагоддзя ён сам даследаваў рэчышча ракі Нямігі, правodзіў раскопкі ў Заслаўі і яго ваколіцах, пазней — у Дзісенскім павеце. Язэп Драздовіч першым выказаў думку, што паселішча Гарадзец на р.Мнюта было абарончай крэпасцю Полацкага княства (тое ж самае ў будучым пацвердзіў вядомы беларускі археолаг Георгій Штыхаў).

Падчас сваіх вандровак Язэп Драздовіч замалёўваў гарадзішчы, курганы, замкі. Ягонаму пэндзлю належаць карціны "Гальшанскае гарадзішча", "Пажар на гарадзішчы", "Парога", "Менскі замак". Апошнія два творы, відаць, навялі на думку другога вядомага археолага Беларусі Эдуарда Загарульскага, на аднаўленне выгляду Менскай брамы XII — XIII стст. Рэканструкцыя Загарульскага амаль цалкам супадае з выявай брамы Язэпа Драздовіча.

Археалагічныя краявіды сустракаюцца і ў творчасці Мікалая Дучыца (карціны "Курган", "Ля Замкавай гары. Менск"). Цікава, што ягоная ўнучка Людміла Дучыц сёння таксама ўжо вядомы беларускі археолаг... Мастацкім аздабленнем кніг па археалогіі займаюцца Генадзь Сінькоўскі і Станіслаў Кузмар.

Але, бадай, больш за ўсіх прысвяціў свае работы археалогіі Яўген Каробушкін. Гэта рэканструкцыя палеалітычнай стаянкі каля вёскі Юдзінава, "Барадзінскае гарадзішча" (на Смаленшчыне), "Мінск, канец XII — пачатак XIVст.", "Старажытны Тураў", "Пінск XIIIст.", "Жанчына з грабянём", "Смерць князя Яраполка". Надзвычай вялікі і разнастайны цыкл, прысвечаны старажытнаму Берасцю. Гэта карціны "Берасце XIII ст.", "Рынак на Бугу ў старажытным Берасці", "Знешні выгляд старажытнага Берасця", "Інтэр'ер жытла ў Берасці XIIIст.", "Уязная брама старажытнага Берасця".

Чым адметны рэканструкцыі і карціны Каробушкіна? Гэта не толькі па-акадэмічнаму скупое аднаўленне гістарычных аб'ектаў, але і напаўненне карцін персанажамі, якія надаюць ім пэўны каларыт. Угледзьцеся ў твор пад назваю "Сын археолага". Ён напісаны мастаком у 60-я гады, падчас археалагічных раскопак у Пінску. На падлозе ў школе (бо відаць край парты) у спальным мяху ляжыць хлопчык пяці-шасці гадоў. На заднім плане, ля сцяны — метровая рэйка. Відаць, працоўны дзень для хлопчыка быў цяжкаваты, бо спіць ён, як кажуць у народзе, нібы пшаніцу прадаўшы.

Да кагорты мастакоў, што звязалі кола сваіх творчых захапленняў з археалогіяй, можна далучыць і віцебскага мастака Алеся Мемуса. Некалькі ягоных карцін прысвечаны старадаўнім рэчам, якія вымыла дзвінская хваля са схілаў былых Верхняга і Ніжняга замкаў Віцебска. Да таго ж мастак сам быў сведкаю шырокамаштабных раскопак у Віцебску.

Цяпер вернемся да майстроў слова. Каму не вядомыя славутыя радкі з паэмы Янкі Купалы: "Паміж пустак, балот беларускай зямлі, на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай, дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, ўздірванелы курган векавечны"?! А ўспомніце, колькі разоў курганы згадваюцца ў паэме Якуба Коласа "Новая зямля".

А вось як маляўніча распавядае пра помнікі археалогіі сусветны класік дэтэктыва Агата Крысці ў апавяданні "Свяцілішча Астарты": "На бліжэйшым скалістым схіле бачны былі цёмныя плямы — сляды старажытных жытлаў. На суседнім узвышшы знаходзіўся курган, дзе яшчэ зусім нядаўна вяліся раскопкі і было выяўлена тое-сёе з бронзавага начыння". Мужам славутай пісьменніцы быў вядомы англійскі археолаг Макс Мэлаўн, сама яна брала ўдзел у раскопках на зямлі Старажытнага Егіпта. Відаць, апошняе і натхніла яе на апавяданне "Таямніца егіпецкай грабніцы", як натхнілі ў свой час вынікі археолагаў Максіма Багдановіча на вядомы санет: "Сярод пяскоў егіпецкай зямлі..."

Няйначай як пад уплывам жонкі, Валянціны Браніславаўны, таксама археолага, згадвае помнікі археалогіі і саміх археолагаў Уладзімір Караткевіч ("Чорны замак Альшанскі", "Зямля пад белымі крыламі", некаторыя вершы).

Ёсць вершаваныя радкі, прысвечаныя археалагічным знаходкам. Належаць яны, праўда, не прафесійнаму паэту, але затое прафесійнаму мастаку, што працуе ў археалагічным аддзеле Акадэміі навук Беларусі, — Алене Котавай. У вершы "Неалітычны посуд" аўтарка, уражаная багатаю арнаментыкай старажытнага посуду (а ў руках — усяго невялічкі чарапок!), "намалявала" цэлую карціну: "Сімвалічныя выявы, пасак-рысак чарада, вораг хцівы, бераг правы. Тут крынічная вада...". Або яшчэ, у наступным вершы: "Чарада курганоў, старажытнасці знак, шляху вольнага ўздоўж вартай-раццю глядзяць...".



Ёсць і сярод прафесійных археолагаў людзі, хто наважыўся ўзяцца за пяро пісьменніка. Найперш назавем кнігу даследчыка К.Керама "Багі, грабніцы, вучоныя", дзе ў захапляльнай форме распавядаецца пра жыццё і творчасць сусветна вядомых археолагаў Шлімана, Эванса, Картэра, Шампальёна, Томпсана.

Сярод нашых калег, у межах былога Саюза, безумоўна, варта адзначыць Георгія Фёдарава і ягоную кніжку "Дзённая паверхня", а таксама кнігу Андрэя Нікіціна "Тайна блакітных рэчак". Ёсць у гэтых творах і лірыка, і вострыя сюжэты, і, што вельмі важна, навуковая дакладнасць у падачы археалагічнага матэрыялу.

На Беларусі таксама знойдзецца дзесятак-другі навукова-папулярных выданняў, у якіх таксама дзе-нідзе праходзіць матузок лірыкі. Гэта навукова-папулярныя выданні Г.Штыхава "Галасы далёкіх продкаў" і "Ажываюць сівыя стагоддзі", М.Ткачова "Замкі Беларусі", П.Лысенкі "Адкрыццё Берасця", Э.Загарульскага "Старажытны Мінск", З.Пазьняка "Рэха даўняга часу", Л.Дучыц "Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў", Г.Каханоўскага "Прадвесне навукі", А.Краўцэвіча "Майстар наш продак", А.Трусава "Старонкі мураванай кнігі", М.Чарняўскага "З глыбінь тысячагоддзяў". Апошні з гэтай плеяды нават пакрочыў далей па сцежцы мастацкай творчасці і выдаў цікавыя не толькі для дзятвы, але і для дарослых кніжкі — "Страла расамахі" і "Вогнепаклоннікі".

Багата, я б сказаў, чакалася і ад славутага даследчыка беларускіх замкаў Міхася Ткачова, які добра ведаў матэрыял і акрамя высокага прафесійнага ўзроўню быў выдатным публіцыстам, майстрам жывога народнага слова. Ён некалі меў намер узяцца за мастацкае ўвасабленне сваіх навуковых доследаў, але, на жаль, лёс быў не надта міласцівы да гэтага вялікага чалавека...

І нарэшце — кінематаграфія. Адзначым найперш дакументальныя стужкі. Гэта "Гаспадзін Вялікі Ноўгарад" ды "Помні імя сваё, Херсанес", дзе няблага паказана работа нашага брата-археолага. На жаль, на Беларусі гэтай тэматыцы не надаецца адпаведнай увагі, калі не лічыць некалькіх аматарскіх стужак, што здымаліся ў Берасці ды Віцебску падчас раскопак. Праўда, апошнім часам штосьці спрабуе на гэтай ніве археолаг Сяргей Тарасаў, даследчык старажытнага Полацка.

Сёе-тое ёсць пра археолагаў і ў мастацкіх стужках, хай сабе і з адценнем гумару. Гэта польскі фільм "Пярсцёнак княгіні Ганны", "Сюрпрыз Афрадыты" (Францыя), "Бачу цэль" і "Джэнтльмены ўдачы" (Масфільм), "Тайна Альшанскага замка" (Беларусьфільм).

"Ну, а ў музыцы, — запытаецца дасціпны чытач, — ёсць штосьці з археалогіі?" І я адкажу: ёсць. У сёлетнім сакавіку ў Беларускай Акадэміі музыкі адбылася навуковая канферэнцыя, дзе адзін з дакладаў быў прысвечаны музычна-археалагічным помнікам на Беларусі. Тут не толькі распавядалі пра знаходкі старажытных інструментаў, але нават ігралі на некаторых з іх.

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ,**
**археолаг**

*На фота — твор Я. Каробушкіна:* Менск XII — XIII стагоддзяў. Рэканструкцыя Пятра Лысенкі паводле раскопак Э. Загарульскага.

# ТАЙНА ВЯСКОВАЙ КРЫНІЧКІ

Святая мясціна пад назвай Захаранка знаходзіцца паміж вёскамі Уюн і Гамарня, за рачулкай Уюнком. Крынічка, якая прываблівае вока сваёй празрыстай, халоднай вадой, бруіцца у лагчыне, вакол якой пераважна расце елка, вольха. Арэшнік, як бы малодшы брат, туліцца да старэйшых сясцёр.

Некалі ў гады дзяцінства ў царкоўныя святы да Захаранкі ішлі не толькі мае аднавяскоўцы, але і людзі з суседніх вёсак. Маліліся, і з бутэлькамі жывой вады вярталіся дахаты. Чым жа прыцягвала Захаранка да сябе? Каб зразумець яе патаемную сілу, спынюся на невялічкім паданні, што расказала мне суседка па вёсцы, Ганна Рыгораўна Новікава, якая па сёння з'яўляецца гаспадыняй Захаранкі. Паходжанне назвы "Захаранка" выцякае з даўніны і з вуснаў старажылаў гэтых вёсак перадавалася з пакалення ў пакаленне. Калі яшчэ людзі жылі аднаасобна і мелі свае кавалы зямлі, то іхнія дзялянкі даходзілі амаль да крынічкі. Аднойчы некалькі мужыкоў, апрацоўваючы зямлю на конях, паставілі іх у цянёк пад дубамі, а самі пашыбавалі да крынічкі, каб наталіць смагу ў спякотны дзень. Падышоўшы бліжэй да вады, яны ўбачылі маладзіцу з доўгімі валасамі, якія закрывалі амаль усё яе голае цела. Жанчына мыла твар, схіліўшыся над крыніцай.

— Хто ты такая? — спыталі мужыкі. — Чаго сюды прыйшла?

— А вы мяне бачыце? — спытала жанчына.

— Бачым! — адказалі тыя.

Павярнуўшы галаву, яна прамовіла:

— Я завуся Захаранкай.

І нечакана для ўсіх знікла.

Сярод маіх землякоў ходзіць паданне і аб узнікненні крынічкі. Некалі тут стаяла царква, якую падмывалі падземныя плыні, і яна правалілася. На яе месцы ўтварыўся дрыгавісты яр, дзе бруілі тры крыніцы. Дзве з іх зацягнула жвірам, адна ж з іх працягвала несці гаючую ваду. Са словаў Ганны Рыгораўны ёсць падставы сцвярджаць, што некалі тут было збудаванне, бо як укапвалі крыжы, дык рыдлёўкі натыкаліся на камяні і рэшткі цэглы. А ўвогуле гэтая святая мясціна патрабуе грунтоўнага і больш глыбокага даследавання, хаця існуе меркаванне, што ўяўленая царква была звязана з імем святога Захарыя, адкуль і паходзіць назва — Захаранка.

У сярэдзіне яра, побач з крынічкамі, была каплічка. Перажыўшы вялікае гора, цяжкія выпрабаванні ліхалецця апошняй вайны, усе пачалі гарнуцца да святога месца Захаранкі, вырашыўшы да святога Іллі-прарока адбудаваць каплічку. У пасляваенныя гады, кажуць, часта здаралася засуха, і людзі ішлі да Захаранкі, маліліся. І Бог даваў дажджу. Ахвяравалі грошы, клалі іх ля абразоў, кідалі манеты ў празрыстую ваду крынічкі.

І ў каторы ўжо раз прыгадваюцца часы басаногага дзяцінства, калі мы, хлапчукі, закасаўшы рукавы, лезлі ў амаль ледзяную ваду, каб дастаць з яе хоць нейкую капейчыну і схадзіць потым у кіно. Большага ж кашчунства мы, неразумныя, сабе не дазвалялі ў святым месцы, не думалі нават крыжы паваліць, абразкі пабіць ці ў каплічцы грошы забраць. Мы дзіцячым пачуццём усё ж адчувалі гэтую святыню і абмяжоўваліся дробязным свавольствам.

Аб лекавых жа ўласцівасцях вады з Захаранкі сведчыць наступны факт. У цэлага статка кароў некалі напала хвароба на вочы, і іх прыгналі да крыніц для прамывання вачэй. Усяму статку было цяжка спусціцца ў яр, таму выкапалі канаву, па якой і цякла гаючая вада, дзе затым паілі кароў, прамывалі ім вочы. Вада, на здзіўленне ўсім, неўзабаве падзейнічала, і ў кароў прайшла хвароба.

Чуткі пра чароўнае здарэнне ў хуткім часе разнесліся за межы Быхаўшчыны. Прыязджалі потым людзі з-пад Рагачова на конях, каб прамыць ім вочы і напаіць жывёл гэтай цудадзейнай вадой. Прынамсі, як вядома з вуснаў вучоных, гаючыя якасці вады аказваюць дапамогу людзям, хворым на сэрца. Старажылы раяць таксама прамываць ёю вочы і людзям. Не выпадкова ж, што вада, узятая з Захаранкі, можа доўгі тэрмін не псавацца ў посудзе, што не дадзена звычайнай вадзе з кранаў ці калодзежаў.

Аднак давайце "адкруцім" назад свае імклівыя гады на дзесятак або два і вернемся ў тыя часы, калі намі кіравала камуністычная ідэалогія, не спрыяючы нашай духоўнасці. Цяжкі лёс напаткаў тады Захаранку. Знайшліся людзі, якія спілавалі алешыну на ўскраіне яра і піхнулі яе на каплічку, ад гэтага ўдару яна і развалілася. А абразкі былі выкінутыя пад адкрытае неба і валяліся навокал, проста на голым снезе. Іх і падабрала мясцовая жыхарка Ганна Рыгораўна Новікава.

Але ёсць праўда. Відаць, Бог пакараў тых злых людзей. Праз некаторы прамежак часу яны аказаліся ўсе паралізаваныя, прычым адным почыркам, і неўзабаве памерлі.

З таго часу пачаў зарастаць шлях да Захаранкі, дзічэла святое месца.

Каб не даць загінуць святыні, сцяжынку да яе адраджэння я пачаў шукаць яшчэ год таму, калі ладзіў свята Купалля ў сваіх землякоў на старажытнай летапіснай гары Баркулабаўскай. Падчас свята сустрэў свайго аднавяскоўца, старшыню калгаса "Спадарожнік" Уладзіміра Сцепанцова. Менавіта ён стаўся маім першым аднадумцам у справе адраджэння Захаранкі, бо гэтае святое месца было знітаванае таксама і з ягоным дзяцінствам. Назаўтра пасля Купальскай ночы мы сустрэліся зноў, далучыўшы да сябе яшчэ двух кіраўнікоў гаспадарак з мэтай у наступнае лета адбудаваць капліцу і зрабіць належны падыход да крыніцы.

Заручыўшыся падтрымкай трох кіраўнікоў гаспадарак, якія паабяцалі дзейсную дапамогу, я звярнуўся ў Міністэрства культуры да галоўнага рэдактара рэдакцыйнай калегіі, паэткі Ніны Загорскай. І, на шчасце, знайшоў у яе асобе і ўхвалу, і падтрымку. Адгукнуўся на нашую занепакоенасць і айцец Мікалай, святар з Быхаўскай цар-

## САБОРНАЯ ПЛОШЧА

# АРХІЕПІСКАП ЭМІГІДЫЮШ ДЖ.РЫЖЫ: "Я АБВЯШЧАЮ ВАЙНУ ПРАВАСЛАЎНАЙ І КАТАЛІЦКАЙ ЦЭРКВАМ..."

Беларуская народная царква, як і Амерыканскі Сусветны патрыярхат (АСП), пад пратэкцыяй якога знаходзіцца БНЦ, заснаваны нашым суайчыннікам патрыярхам Уладзіславам Рыжы-Рыжскім.

Яшчэ юнаком, падчас фашысцкай акупацыі Беларусі, ён апынуўся ў Заходняй Еўропе. Па меры набыцця сродкаў Уладзіслаў вучыўся ў парыжскай Сарбоне і Бельгіі, затым — вучоба ў Грыгарыянскім каталіцкім універсітэце Ватыкана, у Прынстанскім альма-матэр і Мексіцы.

У 1965 годзе беларускі святар Уладзіслаў Рыжы-Рыжскі быў пасвечаны ў сан епіскапа Лаканіі, Нью-Гемпшыра і новых ангельскіх дзяржаваў, а ўжо праз два гады архіепіскап Пітэр А.Журавецкі са Старой артадаксальнай каталіцкай патрыярхіі ўзвёў яго ў сан архіепіскапа.

у 1972 годзе, за некалькі гадоў да смерці, У.Рыжы-Рыжскі быў адлучаны ад Амерыканскай артадаксальнай каталіцкай царквы архіепіскапам Вальтэрам А.Парфетай, тым самым Парфетай, які, дарэчы, стаўся "хросным бацькам" епіскапа Рыжы-Рыжскага. Але, як кажуць, усё, што ні робіцца, робіцца да лепшага. Адлучэнне толькі стымулявала развіццё Амерыканскага Сусветнага патрыярхату, чые епіскапы існуюць ва ўсім свеце: у Пуэрта-Рыка, Калумбіі, Дамініканскай Рэспубліцы, Бразіліі, Перу, Аргенціне, Сальвадоры, Нігерыі, Індыі, Нарвегіі, Швецыі, Украіне (у эміграцыі), Нямеччыне.

Пасля смерці патрыярха Уладзіслава Рыжы-Рыжскага ў 1978 годзе яго справу прадоўжыў родны брат, архіепіскап Эмігідыюш Дж. Рыжы, Апостальскі адміністратар Амерыканскага Сусветнага патрыярхату. На гэты тытул ён пасвечаны другім патрыярхам АСП Адамам Бяляцкім.

На сённяшні дзень Беларуская народная царква дзейнічае, як ні парадаксальна, толькі ў ЗША, дзе мае 22 прыходы і каля тысячы вернікаў.

Няварта крывіць душой: да самага апошняга часу пра існаванне Беларускай народнай царквы ў самой Беларусі ніхто і не падазраваў. Маладосць Беларускай народнай царквы і, відаць, нежаданне каталіцкай ды праваслаўнай цэркваў заўважаць факт яе існавання значна паўплывалі на тое, што візіт Эмігідыюша Рыжы-Рыжскага ў Мінск напрыканцы ліпеня застаўся без увагі не толькі грамадскасці, але і ахвочай да сенсацый журналісцкай брацiі. Аднак, нягледзячы на маўчанне беларускай прэсы, факт застаецца фактам: Уладыка Эмігідыюш Рыжы ў памяшканні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" даў прэс-канферэнцыю.

Пуцявіны лёсу прывялі Уладыку Эмігідыюша Рыжага праз 48 гадоў на малую радзіму — на Глыбоччыну, каб ушанаваць памяць сваіх бацькоў. Адначасова ён з'явіўся на Беларусі і місіянерам — Уладыка цвёрда намераны дамагчыся ўсталявання на нашай зямлі Беларускай народнай царквы. На яго думку, не можа быць і размовы пра "сапраўдны суверэнітэт і незалежнасць" краіны без уласнай аўтакефальнай беларускай царквы. Ні для каго не сакрэт, што каталіцкая царква, падпарадкоўваецца Ватыкану, а праваслаўная — Маскоўскаму патрыярхату. Зразумела, што яны вымушаны падпарадкоўвацца сваім "патронам" і праводзімай імі палітыцы, якая не заўсёды ідзе на карысць Беларусі. Факт відавочны, але пэўныя колы могуць угледзець у ім крамолу.

Але ж трэба глянуць на палітыку каталіцкай царквы на Беларусі ў апошнія гады вачыма без рэлігійнага налёту: яна скіравана супраць беларускіх ксяндзоў. Колькі фактаў. Калі папскі нунцый Габрыэль Мантагія ад'язджаў з Беларусі, ён правёў развітальную імшу ў Гродзенскім фарным касцёле. Менавіта ў гэтым храме нунцый і атрымаў ліст католікоў-беларусаў, дзе было выказана незадавальненне, што набажэнствы па-беларуску праводзяцца толькі раз на тыдзень. У тым жа лісце выказана жаданне, каб дзеці ў нядзельнай школцы маглі вывучаць катэхізіс не толькі на польскай, але і на беларускай мове. Айца Анатоля, які дапамог скласці ўзгаданы ліст, неўзабаве пераводзяць у Наваградак. Айцец Ігар з Ліды, які таксама праводзіў імшу па-беларуску, нядаўна адпраўлены ў Ватыкан — на двухгадовую вучобу. Яго месца цяпер пустуе.

Айцец Віктар, выпускнік Гродзенскай каталіцкай семінарыі, які таксама ўмее весці набажэнствы па-беларуску, адасланы ў Маскву сакратаром да арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. У самога ж Кандрусевіча лёс не лепшы — у 1991 годзе ён выпраўлены ў белакаменную ў "ганаровую" высылку. Прыкметна, што экс-біскуп пайшоў на "павышэнне" адразу, як толькі пачаў спрыяць беларускай мове ў касцёлах.

Апошнія гады каталіцкая царква ўсё часцей прымяняе практыку да "высялення" няўгодных беларускіх ксяндзоў з Беларусі. Аднак горача сустракае ксяндзоў-палякаў, якія прыязджаюць на Беларусь з заходняй "суседкі". І такая палітыка, хутчэй за ўсё, у бліжэйшы час значных змяненняў не адчуе. Па інфармацыі газеты "Свабода", урад збіраецца ў рэшце рэшт афіцыйна прызнаць арцыбіскупа, мітрапаліта Мінскага і Магілёўскага Казімера Сьвёнтэка. А апошні, у сваю чаргу, цытуем, "запрапанаваў аплаціць "рахунак" за доўгае чаканне прызнання — запрасіць на Беларусь пару дзесяткаў польскіх ксяндзоў". Абвяржэнне гэтай інфармацыі ў рэдакцыю не паступала...

Больш эластычнай, але па сутнасці такой самай антыбеларускай палітыкі на Беларусі прытрымліваецца і праваслаўная царква. Разумеючы гэта, Уладыка Эмігідыюш Рыжы абвясціў як праваслаўнай, так і каталіцкай царкве вайну. Вядома ж, не будзе ніякай страляніны, не будзе нічога "ваеннага", але імкненне Беларускай народнай царквы прыжыцца на Беларусі азначае, што абодва монстры не зміраццца з "канкурэнтамі". Уладыка не збіраецца "адбіраць" у католікоў ды праваслаўных іхнюю веру. Ён апанаваны адным — арганізаваць на Беларусі хоць бы адзін прыход БНЦ, дзе б змаглі маліцца пяць-восем вернікаў. Для пачатку...

Гэта "праграма-мінімум". Планы ж, безумоўна, у Эмігідыюша Рыжага ідуць куды далей.

Зрэшты, па вялікім рахунку Беларуская народная царква — тая ж праваслаўная. Адзінае, што розніць іх і вызначае поўную палярнасць — мэта.

Уладыка Эмігідыюш Рыжы ўпэўнены, што для Бацькаўшчыны беларуская аўтакефальная царква неабходна, як паветра — каб служыць не главе царквы, а ўласнаму народу, прычым на беларускай мове. "Нацыянальнасць" для царквы становіцца вострай неабходнасцю ў святле апошніх шасці-сямі "рэвалюцыйных гадоў" у СССР і постсавецкіх дзяржавах. Адлучаная ў 17-м годзе ад дзяржавы царква вярнулася на кругі свая, стаўшы адным з найгалоўнейшых дзяржаўных атрыбутаў, тым самым карэнным чынам уплываючы на палітыку дзяржавы. Ясна, як белы дзень, што незалежнай краіне патрэбна незалежная царква. І няважна, як яна будзе называцца — праваслаўная, каталіцкая ці Беларуская народная. Абы яна працавала на Беларусь.

... А вернікі самі здольны вырашыць, у які храм ім пайсці ды якому Богу маліцца...

**Юрась ДУБІНА**



Шаўляй. На Гары крыжоў.

квы. За драджэнне Захаранкі былі і кіраўнікі раёна: старшыня райвыканкама Аляксандр Пазюмка і ягоны намеснік Раман Святоха.

І вось нарэшце пятага чэрвеня, у дзень памяці нябеснай заступніцы Беларусі — Еўфрасінні Полацкай, Захаранка дачакалася свайго аднаўлення. Арганізатарам гэтай духоўнай дзеі выступіла Рэспубліканская дырэкцыя нацыянальных мастацкіх праграм, якую ўзначальвае Міхаіл Масюкоў. Непасрэдны ўдзел у яе ажыццяўленні браў і аўтар гэтых радкоў. Ніна Загорская, вяртаючыся з Польшчы, прывезла з сабою на Быхаўшчыну шэраг абразкоў, сярод якіх і святы Ілля-прарок для капліцы. Не змагла застацца абыякавай да справы адраджэння Захаранкі і мастачка-даследчыца беларускага арнаменту Марыя Жабінская. За некалькі дзён да свята яна прыехала ў вёску і праводзіла падрыхтоўку да Хрэснага ходу.

... Нягледзячы на дробны дожджык, што ішоў з самой раніцы, у вёсцы Гамарня, ля перакрыжавання дарог, адна з якіх вяла да крыніцы, сабралася багата людзей. З Быхава, з навакольных вёсак і мястэчак спяшаліся і старыя, і малыя. Бо менавіта адсюль павінен быў пачацца Хрэсны ход да некалі забытай святыні. А яна сапраўды перажывала сваё другое нараджэнне, бо будаўнікі пад кіраўніцтвам трох старшыняў калгасаў Уладзіміра Сцепанцова, Мікалая Лызя і Пятра Міхалапа папрацавалі сумленна. У гэты дзень Захаранку наведалі святары з Быхава і Магілёва.

... Раптам разышліся хмары, выглянула сонейка, і, здавалася, сама прырода і Бог радуюцца адраджэнню святой Захаранкі. Пад царкоўныя званы пачаўся Хрэсны ход, аднаўляючы шлях яшчэ да адной беларускай святыні. Так, гэта сапраўды шлях, а не забытая Богам і людзьмі сцяжынка. Да Хрэснага ходу далучылася мноства людзей, здавалася нават, што масток праз рачулку Уюнок не вытрымае такога цяжару. І па ўсім наваколлі разносіліся гукі цудоўных духоўных песень у выкананні хору з Магілёва. Потым адбыўся малебен і асвячэнне адбудаванай Свята-Іллінскай капліцы і трох крыніц. А вялікая чарга людзей імкнулася набраць у слоікі ды бутэлькі жывой, гаючай вады. Усе свяціліся радасцю, бо скінулі той камень са сваіх душ, які ўсклалі на іх доўгія гады бяспамяцтва.

Неаднойчы пасля гэтага я наведваў Захаранку і заўсёды падоўгу назіраў, як весела бруіць вір памаладзелай, адноўленай крыніцы...

А людзі ідуць і ідуць...

**Мікола МАКАРЦОЎ**

Быхаўскі раён

НАШ КАМЕНТАР

# ЦІ ВАРТА СТАВІЦЦА СУР'ЁЗНА?

*Рэдакцыя палічыла, што будзе цікавым для чытачоў і слова тых, каму абвяшчаецца вайна.*

*Настаяцель касцёла св.Сымона і св.Алены ксёндз-магістр **Уладзіслаў Завальнюк** адзначыў, што так званая Беларуская народная царква сур'ёзнага стаўлення да сябе не вартая. Ён ацаніў яе на ўзроўні розных сектаў, у тым ліку накшталт Белага Брацтва, і заўважыў, што калі б дзеяч, падобны на Эмігідыюша Рыжага, з'явіўся ў якім-небудзь калгасе, дык на яго б ніхто не звярнуў увагі, а ўвага ў дадзеным выпадку — вынік таго, што ён прыехаў з Амерыкі. Але сутнасці справы гэта не мяняе. Наадварот — царква, якая дзейнічае толькі ў ЗША, не мае падстаў называцца "Беларуская народная".*

*Аб пратэстах наконт кіраўніцтва царквы з Ватыкана Уладзіслаў Завальнюк сказаў, што ў розных месцах зямнога шара, у тым ліку ў самім Рыме, і раней, і ў наш час з'яўляліся людзі, гэтым фактам незадаволеныя. Аднак яны прыходзяць і адыходзяць, а папа Рымскі застаецца. Ва ўсіх краінах каталіцкая царква стагоддзямі падпарадкоўваецца Ватыкану, і суверэнітэту гэтых краін дадзеная акалічнасць не шкодзіць.*

*Ксёндз-магістр катэгарычна адхіліў абвінавачванні ў якой бы там ні было дыскрымінацыі святароў, якія праводзяць набажэнствы на беларускай мове. У касцёле, дзе ён з'яўляецца настаяцелем, служба вядзецца на трох мовах — польскай, беларускай і рускай. Вялікая ўвага надаецца перакладам розных царкоўных тэкстаў на беларускую мову.*

***Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт** даў інтэрв'ю па пытаннях, пастаўленых у артыкуле.*

**— Адзін з асноўных тэзісаў Э.Рыжага: Беларусі, як незалежнай дзяржаве, неабходная адпаведна і незалежная, аўтакефальная царква, якая б не падпарадкоўвалася ні Маскве, ні Ватыкану. І Беларуская народная царква, пра якую ідзе гаворка — гэта і ёсць спроба стварыць менавіта такую канфесію. Як Вы ставіцеся да гэтай ідэі?**

— Гэта непрафесійнае багаслоўскае меркаванне, пад якім няма ніякага царкоўна-кананічнага базісу. Так, існуюць памесныя праваслаўныя аўтакефальныя цэрквы, якія гістарычна стварыліся. Але ў праваслаўнай царкве дагэтуль яшчэ не выпрацавана правіла, хто дае аўтакефалію і які працэс даравання аўтакефаліі. Гэтым пытаннем зараз займаецца багаслоўская міжправаслаўная канфесія, куды ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх памесных кананічных цэркваў. І сёння сумленны гісторык і багаслоў не зможа вам сказаць, што нейкі пэўны парадак вырашэння гэтага пытання існуе. У гісторыі царквы былі прэцэдэнты, якія не з'яўляліся вынікам строгага царкоўнага правіла. І зусім неабавязкова, што раз дзяржава самастойная, дык і царква павінна быць самастойнай. Існуе ж адзіная рымска-каталіцкая царква. І ўсе размовы пра аўтакефалію, пра самастойнасць — размовы чыста свецкія, іх вядуць людзі, якія вельмі па-свойму разумеюць царкоўнае вучэнне аб аўтакефаліі або аўтаноміі.

**— Добра, але ці патрэбная ў прынцыпе Беларусі, на Вашу думку, аўтакефальная царква?**

— Беларускай праваслаўнай царкве Патрыярх і Свяшчэнны Сінод даравалі значную меру самастойнасці. Мы з'яўляемся Экзархатам, мы маем 10 епіскапій, і дзесяць епіскапаў прадстаўляюць Сінод Беларускай праваслаўнай царквы. І мы вырашаем усе пытанні самастойна. Але мы зусім не збіраемся аддзяляцца ад Маскоўскага патрыярхату, які, гэтак жа як і Беларуская праваслаўная царква, налічвае 1000 гадоў свайго быцця. Жылі разам у любові і згодзе, разам здзяйснялі адзіную евангельскую місію, ажыццяўляючы ўзаемную дапамогу і падтрымку. А што б рабіла незалежная беларуская царква, каб была аддзеленая і не прызнавала Патрыярха, у цяжкія рэвалюцыйныя, потым ваенныя, пасляваенныя, таталітарныя часы? Нашто ж нам ірваць гэтыя вузы, якія толькі ўзбагачаюць і ўзмацняюць адзін аднаго? Гэта факт, гэта ўсім вядома. Але адзінства не ўсіх задавальвае. Пэўныя палітычныя сілы ў сваім імкненні расчляняць дабіраюцца і да царквы. А мы спавядаем адзіную святую саборную апостальскую царкву.

**— Я хацеў бы, каб Вы пракаментавалі яшчэ адзін момант — пра "нацыянальнасць царквы", якая нібыта набывае вялікае значэнне ў постсавецкіх умовах. Вядома, царква павінна несці дабро жыхарам той краіны, дзе яна дзейнічае. Але ці правамерна наогул пытанне аб "нацыянальнасці царквы" — наколькі я ведаю, для хрысціянства "няма ні эліна, ні іудзея"?**

— Цалкам слушна Вы разважаеце. У царквы няма нацыянальнасці, але царква павінна ўсведамляць сваю місію ў сваім народзе. Царква наднацыянальная. Але гэта не значыць, ратуй Божа, што царква хоча знішчыць у сваіх членах нацыянальныя асаблівасці, пачуцці, культуру, мову і г.д. Сучасная Беларуская праваслаўная царква выдатна разумее, што яна павінна садзейнічаць нацыянальнаму адзінству, нацыянальнай самасвядомасці народа, і яна гэта робіць сваім шляхам.

**— Ці былі ў Вас звесткі пра Беларускую народную царкву да сённяшняга дня?**

— Я не многа ведаю, мы гэтым проста не займаліся сур'ёзна, бо гэта лухта, марнаванне часу. Наогул у нашым царкоўным замежжы зараз такое распаўсюджана; фікцыя, некалькі чалавек робяць сабе рэкламу — адзін мітрапаліт, другі архіепіскап, трэці вось ужо і патрыярх. На самой справе гэта чыста нецаркоўная з'ява, людзі кіруюцца нейкімі іншымі разлікамі. Думаеце, цікавіць іх Беларусь, інтарэсы беларускага народа? Ім важна паланіць душы, уцягнуць у сваю канфесію, у сваю партыю, у сваю плынь — і зацвердзіць перавагі свайго рэлігійнага руху над іншымі.

*Такім чынам, прадстаўнікі дзвюх буйнейшых на Беларусі канфесій незалежна адзін ад аднаго занялі практычна аднолькавыя пазіцыі. Ад сябе дадам, што на ролю Лютэра ці Кальвіна Э.Рыжы наўрад ці пацягне, тым больш, што праблем рэфармавання царквы ён і не ставіць. У Беларускай народнай царквы, як вынікае з матэрыялу, няма разыходжанняў з праваслаўнымі альбо з католікамі па кананічных, багаслоўскіх пытаннях — мэты "абвешчанай вайны" чыста палітычныя. Я не ўкладваю ў самое паняцце палітычных мэтаў ніякага адмоўнага сэнсу, але царква, паводле ідэі, усё ж такі прызваная займацца зусім іншым і стаяць, па магчымасці, над палітыкай. Варта было б пакінуць Богу Богава, а кесару кесарава.*

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ВОДГУЛЛЕ

# СІМФОНІЯ ... НА ЧАРАПКАХ

***Хто-небудзь са скептыкаў можа запярэчыць: "Кіньце! Які абвуглены чарапок можа натхніць паэта на высокую паэзію, а высахлы чэрап стварыць чалавека ва плоці, з душою?!" Бяруся хоць бегла, але на прыкладах паказаць, што археалагічныя матэрыялы даволі часта выступаюць як чыннікі ў творах мастацтва.***

Упершыню вынікі археалагічных раскопак скарыстаў у жывапісе рускі мастак Карл Брулоў у вядомай карціне "Апошні дзень Пампеі" (1830г.). Другі мастак, таксама з улікам вядомых яму на той час археалагічных звестак, Віктар Васняцоў, зрабіў роспіс фрыза "Каменны век" у Гістарычным музеі ў Маскве. Яго брату, Апалінару Васняцову, археолагу і пачынальніку гістарычнага краявіду, заснаванага на мастацкім асэнсаванні матэрыяльных крыніц, належыць карціна "Масква на пачатку XVII стагоддзя". Мастаком-археолагам быў і Мікалай Рэрых. У гэтым пераконваюць ягоныя творы: "Пачатак Русі. Славяне", "Вястун", "Заморскія госці", "Горад будуецца". Апошні твор яўна нарадзіўся пад уплывам ноўгарадскіх раскопак, у якіх удзельнічаў аўтар. Вулічныя маставыя, зрубы і вастраколы на гэтай карціне зіхацяць смаляной свежасцю, нібы толькі-толькі ўскрытыя ў вільготным культурным пласце...

А чэшскі мастак Здэнек Бурыян і археолаг Ёзэф Аўгуста на падставе вынікаў сусветнай палеазаалогіі і археалогіі змаглі аднавіць найстарадаўні пласт гісторыі Зямлі. Таленавіты, жывы аловак Бурыяна вярнуў з небыцця і выявы велізарных страшыдлаў мезазойскай эры, і аблічча першых людзей...

Цікавыя вынікі могуць атрымацца, калі ў адной асобе спалучаецца археолаг, антраполаг і скульптар. Менавіта такім майстрам быў вядомы вучоны Мікалай Герасімаў. Гэта ён распрацаваў метад пластычнай рэканструкцыі аблічча чалавека па чэрапе. Гэта ён паказаў нам найстаражытнейшых прадстаўнікоў чалавецтва: пітэкантрапа, сінантрапа, неандэртальца, краманьёнца. Ім жа рэканструяваны абліччы вядомых гістарычных асобаў сярэднявечча. Гэта скульптурныя партрэты Яраслава Мудрага, Андрэя Багалюбскага, Усевалада Вялікае Гняздо, Івана Грознага, Улугбека, Цімура і іншых.

На Беларусі таксама знайшліся паслядоўнікі Герасімава: антраполаг Алесь Кушнер, этнограф Ігар Чаквін і скульптар Леанід Яшэнка. На падставе матэрыялаў, сабраных падчас археалагічных раскопак, імі зроблена каля 20 рэканструкцый скульптурных бюстаў-партрэтаў, у тым ліку чалавека эпохі бронзы, прадстаўнікоў розных груп старажытнага насельніцтва X — XIII стст.: крывічоў, палачан, радзімічаў, дрыгавічоў, яцвягаў, жыхароў Наваградка, Слоніма, Полацка. Дзякуючы іх плёну сёння нібы наяве можна ўбачыць, як выглядалі і мужчыны воіны, і прыгажуні далёкіх часоў.

У беларускім жывапісе археалагічныя сюжэты выкарыстаў, бадай упершыню, мастак Язэп Драздовіч. На пачатку дваццатых гадоў нашага стагоддзя ён сам даследаваў рэчышча ракі Нямігі, праводзіў раскопкі ў Заслаўі і яго ваколіцах, пазней — у Дзісенскім павеце. Язэп Драздовіч першым выказаў думку, што паселішча Гарадзец на р.Мнюта было абарончай крэпасцю Полацкага княства (тое ж самае ў будучым пацвердзіў вядомы беларускі археолаг Георгій Штыхаў).

Падчас сваіх вандровак Язэп Драздовіч замалёўваў гарадзішчы, курганы, замкі. Ягонаму пэндзлю належаць карціны "Гальшанскае гарадзішча", "Пажар на гарадзішчы", "Парога", "Менскі замак". Апошнія два творы, відаць, навялі на думку другога вядомага археолага Беларусі Эдуарда Загарульскага, на аднаўленне выгляду Менскай брамы XII — XIII стст. Рэканструкцыя Загарульскага амаль цалкам супадае з выявай брамы Язэпа Драздовіча.

Археалагічныя краявіды сустракаюцца і ў творчасці Мікалая Дучыца (карціны "Курган", "Ля Замкавай гары. Менск"). Цікава, што ягоная ўнучка Людміла Дучыц сёння таксама ўжо вядомы беларускі археолаг... Мастацкім аздабленнем кніг па археалогіі займаюцца Генадзь Сінькоўскі і Станіслаў Кузмар.

Але, бадай, больш за ўсіх прысвяціў свае работы археалогіі Яўген Каробушкін. Гэта рэканструкцыя палеалітычнай стаянкі каля вёскі Юдзінава, "Барадзінскае гарадзішча" (на Смаленшчыне), "Мінск, канец XII — пачатак XIVст.", "Старажытны Тураў", "Пінск XIIIст.", "Жанчына з грабянём", "Смерць князя Яраполка". Надзвычай вялікі і разнастайны цыкл, прысвечаны старажытнаму Берасцю. Гэта карціны "Берасце XIII ст.", "Рынак на Бугу ў старажытным Берасці", "Знешні выгляд старажытнага Берасця", "Інтэр'ер жытла ў Берасці XIIIст.", "Уязная брама старажытнага Берасця".

Чым адметны рэканструкцыі і карціны Каробушкіна? Гэта не толькі па-акадэмічнаму скупое аднаўленне гістарычных аб'ектаў, але і напаўненне карцін персанажамі, якія надаюць ім пэўны каларыт. Углядзьцеся ў твор пад назваю "Сын археолага". Ён напісаны мастаком у 60-я гады, падчас археалагічных раскопак у Пінску. На падлозе ў школе (бо відаць край парты) у спальным мяху ляжыць хлопчык пяці-шасці гадоў. На заднім плане, ля сцяны — метровая рэйка. Відаць, працоўны дзень для хлопчыка быў цяжкаваты, бо спіць ён, як кажуць у народзе, нібы пшаніцу прадаўшы.

Да кагорты мастакоў, што звязалі кола сваіх творчых захапленняў з археалогіяй, можна далучыць і віцебскага мастака Алеся Мемуса. Некалькі ягоных карцін прысвечаны старадаўнім рэчам, якія вымыла дзвінская хваля са схілаў былых Верхняга і Ніжняга замкаў Віцебска. Да таго ж мастак сам быў сведкаю шырокамаштабных раскопак у Віцебску.

Цяпер вернемся да майстроў слова. Каму не вядомыя славутыя радкі з паэмы Янкі Купалы: "Паміж пустак, балот беларускай зямлі, на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай, дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, ўдзірванелы курган векавечны"?! А ўспомніце, колькі разоў курганы згадваюцца ў паэме Якуба Коласа "Новая зямля".

А вось як маляўніча распавядае пра помнікі археалогіі сусветны класік дэтэктыва Агата Крысці ў апавяданні "Свяцілішча Астарты": "На бліжэйшым скалістым схіле бачны былі цёмныя плямы — сляды старажытных жытлаў. На суседнім узвышшы знаходзіўся курган, дзе яшчэ зусім нядаўна вяліся раскопкі і было выяўлена тое-сёе з бронзавага начыння". Мужам славутай пісьменніцы быў вядомы англійскі археолаг Макс Мэлаўн, сама яна брала ўдзел у раскопках на зямлі Старажытнага Егіпта. Відаць, апошняе і натхніла яе на апавяданне "Таямніца егіпецкай грабніцы", як натхнілі ў свой час вынікі археолагаў Максіма Багдановіча на вядомы санет: "Сярод пяскоў егіпецкай зямлі..."

Няйначай як пад уплывам жонкі, Валянціны Браніславаўны, таксама археолага, згадвае помнікі археалогіі і саміх археолагаў Уладзімір Караткевіч ("Чорны замак Альшанскі", "Зямля пад белымі крыламі", некаторыя вершы).

Ёсць вершаваныя радкі, прысвечаныя археалагічным знаходкам. Належаць яны, праўда, не прафесійнаму паэту, але затое прафесійнаму мастаку, што працуе ў археалагічным аддзеле Акадэміі навук Беларусі, — Алене Котавай. У вершы "Неалітычны посуд" аўтарка, уражаная багатаю арнаментыкай старажытнага посуду (а ў руках — усяго невялічкі чарапок!), "намалявала" цэлую карціну: "Сімвалічныя выявы, пасак-рысак чарада, вораг хцівы, бераг правы. Тут крынічная вада...". Або яшчэ, у наступным вершы: "Чарада курганоў, старажытнасці знак, шляху вольнага ўздоўж вартай-раццю глядзяць...".



Ёсць і сярод прафесійных археолагаў людзі, хто наважыўся ўзяцца за пяро пісьменніка. Найперш назавем кнігу даследчыка К.Керама "Багі, грабніцы, вучоныя", дзе ў захапляльнай форме распавядаецца пра жыццё і творчасць сусветна вядомых археолагаў Шлімана, Эванса, Картэра, Шампальёна, Томпсана.

Сярод нашых калег, у межах былога Саюза, безумоўна, варта адзначыць Георгія Фёдарава і ягоную кніжку "Дзённая паверхня", а таксама кнігу Андрэя Нікіціна "Тайна блакітных рэчак". Ёсць у гэтых творах і лірыка, і вострыя сюжэты, і, што вельмі важна, навуковая дакладнасць у падачы археалагічнага матэрыялу.

На Беларусі таксама знойдзецца дзесятак-другі навукова-папулярных выданняў, у якіх таксама дзе-нідзе праходзіць матузок лірыкі. Гэта навукова-папулярныя выданні Г.Штыхава "Галасы далёкіх продкаў" і "Ажываюць сівыя стагоддзі", М.Ткачова "Замкі Беларусі", П.Лысенкі "Адкрыццё Берасця", Э.Загарульскага "Старажытны Мінск", З.Пазьняка "Рэха даўняга часу", Л.Дучыц "Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў", Г.Каханоўскага "Прадвесне навукі", А.Краўцэвіча "Майстар наш продак", А.Трусава "Старонкі мураванай кнігі", М.Чарняўскага "З глыбінь тысячагоддзяў". Апошні з гэтай плеяды нават пакрочыў далей па сцежцы мастацкай творчасці і выдаў цікавыя не толькі для дзятвы, але і для дарослых кніжкі —"Страла расамахі" і "Вогнепаклоннікі".

Багата, я б сказаў, чакалася і ад славутага даследчыка беларускіх замкаў Міхася Ткачова, які добра ведаў матэрыял і акрамя высокага прафесійнага ўзроўню быў выдатным публіцыстам, майстрам жывога народнага слова. Ён некалі меў намер узяцца за мастацкае ўвасабленне сваіх навуковых доследаў, але, на жаль, лёс быў не надта міласцівы да гэтага вялікага чалавека...

І нарэшце — кінематаграфія. Адзначым найперш дакументальныя стужкі. Гэта "Гаспадзін Вялікі Ноўгарад" ды "Помні імя сваё, Херсанес", дзе няблага паказана работа нашага брата-археолага. На жаль, на Беларусі гэтай тэматыцы не надаецца адпаведнай увагі, калі не лічыць некалькіх аматарскіх стужак, што здымаліся ў Берасці ды Віцебску падчас раскопак. Праўда, апошнім часам штосьці спрабуе на гэтай ніве археолаг Сяргей Тарасаў, даследчык старажытнага Полацка.

Сёе-тое ёсць пра археолагаў і ў мастацкіх стужках, хай сабе і з адценнем гумару. Гэта польскі фільм "Пярсцёнак княгіні Ганны", "Сюрпрыз Афрадыты" (Францыя), "Бачу цэль" і "Джэнтльмены ўдачы" (Масфільм), "Тайна Альшанскага замка" (Беларусьфільм).

"Ну, а ў музыцы, —запытаецца дасціпны чытач, — ёсць штосьці з археалогіі?" І я адкажу: ёсць. У сёлетнім сакавіку ў Беларускай Акадэміі музыкі адбылася навуковая канферэнцыя, дзе адзін з дакладаў быў прысвечаны музычна-археалагічным помнікам на Беларусі. Тут не толькі распавядалі пра знаходкі старажытных інструментаў, але нават ігралі на некаторых з іх.

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ,**
**археолаг**

*На фота — твор Я. Каробушкіна:* Менск XII — XIII стагоддзяў. Рэканструкцыя Пятра Лысенкі паводле раскопак Э. Загарульскага.

# ТАЙНА ВЯСКОВАЙ КРЫНІЧКІ

Святая мясціна пад назвай Захаранка знаходзіцца паміж вёскамі Уюн і Гамарня, за рачулкай Уюнком. Крынічка, якая прываблівае вока сваёй празрыстай, халоднай вадой, бруіць у лагчыне, вакол якой пераважна расце елка, вольха. Арэшнік, як бы малодшы брат, туліцца да старэйшых сясцёр.

Некалі ў гады дзяцінства ў царкоўныя святы да Захаранкі ішлі не толькі мае аднавяскоўцы, але і людзі з суседніх вёсак. Маліліся, і з бутэлькамі жывой вады вярталіся дахаты. Чым жа прыцягвала Захаранка да сябе? Каб зразумець яе патаемную сілу, спынюся на невялічкім паданні, што расказала мне суседка па вёсцы, Ганна Рыгораўна Новікава, якая па сёння з'яўляецца гаспадыняй Захаранкі. Паходжанне назвы "Захаранка" выцякае з даўніны і з вуснаў старажылаў гэтых вёсак перадавалася з пакалення ў пакаленне. Калі яшчэ людзі жылі аднаасобна і мелі свае кавалы зямлі, то іхнія дзялянкі даходзілі амаль да крынічкі. Аднойчы некалькі мужыкоў, апрацоўваючы зямлю на конях, паставілі іх у цянёк пад дубамі, а самі пашыбавалі да крынічкі, каб наталіць смагу ў спякотны дзень. Падышоўшы бліжэй да вады, яны ўбачылі маладзіцу з доўгімі валасамі, якія закрывалі амаль усё яе голае цела. Жанчына мыла твар, схіліўшыся над крыніцай.

— Хто ты такая? — спыталі мужыкі. — Чаго сюды прыйшла?

— А вы мяне бачыце? — спытала жанчына.

— Бачым! — адказалі тыя.

Павярнуўшы галаву, яна прамовіла:

— Я завуся Захаранкай.

І нечакана для ўсіх знікла.

Сярод маіх землякоў ходзіць паданне і аб узнікненні крынічкі. Некалі тут стаяла царква, якую падмывалі падземныя плыні, і яна праваліласяся. На яе месцы ўтварыўся дрыгавісты яр, дзе бруілі тры крыніцы. Дзве з іх зацягнула жвірам, адна ж з іх працягвала несці гаючую ваду. Са словаў Ганны Рыгораўны ёсць падставы сцвярджаць, што некалі тут было збудаванне, бо як укапвалі крыжы, дык рыдлёўкі натыкаліся на камяні і рэшткі цэглы. А ўвогуле гэтая святая мясціна патрабуе грунтоўнага і больш глыбокага даследавання, хаця існуе меркаванне, што ўяўленая царква была звязана з імем святога Захарыя, адкуль і паходзіць назва — Захаранка.

У сярэдзіне яра, побач з крынічкамі, была каплічка. Перажыўшы вялікае гора, цяжкія выпрабаванні ліхалецця апошняй вайны, усе пачалі гарнуцца да святога месца Захаранкі, вырашыўшы да святога Іллі-прарока адбудаваць каплічку. У пасляваенныя гады, кажуць, часта здаралася засуха, і людзі ішлі да Захаранкі, маліліся. І Бог даваў дажджу. Ахвяравалі грошы, клалі іх ля абразоў, кідалі манеты ў празрыстую ваду крынічкі.

І ў каторы ўжо раз прыгадваюцца часы басаногага дзяцінства, калі мы, хлапчукі, закасаўшы рукавы, лезлі ў амаль ледзяную ваду, каб дастаць з яе хоць нейкую капейчыну і схадзіць потым у кіно. Большага ж кашчунства мы, неразумныя, сабе не дазвалялі ў святым месцы, не думалі нават крыжы паваліць, абразкі пабіць ці ў каплічцы грошы забраць. Мы дзіцячым пачуццём усё ж адчувалі гэтую святыню і абмяжоўваліся дробязным свавольствам.

Аб лекавых жа ўласцівасцях вады з Захаранкі сведчыць наступны факт. У цэлага статка кароў некалі напала хвароба на вочы, і іх прыгналі да крыніц для прамывання вачэй. Усяму статку было цяжка спусціцца ў яр, таму выкапалі канаву, па якой і цякла гаючая вада, дзе затым паілі кароў, прамывалі ім вочы. Вада, на здзіўленне ўсім, неўзабаве падзейнічала, і ў кароў прайшла хвароба.

Чуткі пра чароўнае здарэнне ў хуткім часе разнесліся за межы Быхаўшчыны. Прыязджалі потым людзі з-пад Рагачова на конях, каб прамыць ім вочы і напаіць жывёл гэтай цудадзейнай вадой. Прынамсі, як вядома з вуснаў вучоных, гаючыя якасці вады аказваюць дапамогу людзям, хворым на сэрца. Старажылы раяць таксама прамываць ёю вочы і людзям. Не выпадкова ж, што вада, узятая з Захаранкі, можа доўгі тэрмін не псавацца ў посудзе, што не дадзена звычайнай вадзе з кранаў ці калодзежаў.

Аднак давайце "адкруцім" назад свае імклівыя гады на дзесятак або два і вернемся ў тыя часы, калі намі кіравала камуністычная ідэалогія, не спрыяючы нашай духоўнасці. Цяжкі лёс напаткаў тады Захаранку. Знайшліся людзі, якія спілавалі алешыну на ўскраіне яра і піхнулі яе на каплічку, ад гэтага ўдару яна і развалілася. А абразкі былі выкінутыя пад адкрытае неба і валяліся навокал, проста на голым снезе. Іх і падабрала мясцовая жыхарка Ганна Рыгораўна Новікава.

Але ёсць праўда. Відаць, Бог пакараў тых злых людзей. Праз некаторы прамежак часу яны аказаліся ўсе паралізаваныя, прычым адным почыркам, і неўзабаве памерлі.

З таго часу пачаў зарастаць шлях да Захаранкі, дзічэла святое месца.

Каб не даць загінуць святыні, сцяжынку да яе адраджэння я пачаў шукаць яшчэ год таму, калі ладзіў свята Купалля ў сваіх землякоў на старажытнай летапіснай гары Баркулабаўскай. Падчас свята сустрэў свайго аднавяскоўца, старшыню калгаса "Спадарожнік" Уладзіміра Сцепанцова. Менавіта ён стаўся маім першым аднадумцам у справе адраджэння Захаранкі, бо гэтае святое месца было знітаванае таксама і з ягоным дзяцінствам. Назаўтра пасля Купальскай ночы мы сустрэліся зноў, далучыўшы да сябе яшчэ двух кіраўнікоў гаспадарак з мэтай у наступнае лета адбудаваць капліцу і зрабіць належны падыход да крыніцы.

Заручыўшыся падтрымкай трох кіраўнікоў гаспадарак, якія паабяцалі дзейсную дапамогу, я звярнуўся ў Міністэрства культуры да галоўнага рэдактара рэдакцыйнай калегіі, паэткі Ніны Загорскай. І, на шчасце, знайшоў у яе асобе і ўхвалу, і падтрымку. Адгукнуўся на нашую занепакоенасць і айцец Мікалай, святар з Быхаўскай цар-

## ЗАМЕСТ КРОПКІ



Прызнаюся, і я калісьці грашыў, і мне калісьці здавалася неабходным, расказваючы пра цырк, падкрэсліць небяспеку ў працы гімнаста альбо эквілібрыста, утаймавальніка драпежнікаў альбо джыгіта — быццам усімі ярка выпісанымі шрамамі на целе "стомленага дрэсіроўшчыка", жахлівай колькасцю пераломаў "заліхвацкага эквілібрыста" выклікаю ў чытача большую павагу да гэтых па-сапраўднаму адважных людзей, прымушу, наколькі гэта магчыма, суперажываць іх дзёрзкаму, тут, на вачах, ствараемаму мастацтву.

Пасля зразумеў: рубец на целе, нават калі ён штучнага паходжання, да мастацтва мае прыкладна такое самае дачыненне, як асіплы праз прастуду голас опернага спевака. Глядач зусім не павінен бачыць і ведаць пра "кроў, пот, слёзы" рэпетыцый, пра зрывы, падзенні, траўмы, якія калі часам і здараюцца, то ніякім чынам не з'яўляюцца толькі вынікам рызыкоўнай прафесіі цыркавога артыста, а часцей іх прычына — няўважлівасць, нявопытнасць ці проста нядбайнасць.

Я сустракаўся і размаўляў на гэтую тэму са многімі грандамі манежа, і большасць з іх пераконвалі — небяспекі можна пазбегнуць, калі быць увесь час сабраным, гатовым да любой нечаканасці, калі загадзя, задоўга да выхаду на арэну ты "пралічыў" усе магчымыя, як кажуць касманаўты, "пазаштатныя" сітуацыі.

Бадай, ёсць толькі адзін жанр у цырку, дзе траўмы, розныя магчымыя непрыемнасці, калі і не запланаваныя, то, ва ўсялякім выпадку, у меншай ступені могуць быць наперад улічаны. Жанр гэты — "жакеі".

У энцыклапедыі "Цырк" напісана: "Жакей — амплуа коннага акрабата. Жакей працуе на неасядланым кані... У рэпертуары жакея — разнастайныя сальта на кані, сальта з аднаго каня на другога, што бяжыць побач, курбеты, фінальны "курс". Так, нумар жакеяў не ўявіш без коней. Конь, калі можна так сказаць, рэквізіт наезніка. Але жывы рэквізіт. І ад таго, як адчувае, як разумее артыст каня, шмат у чым залежыць поспех яго выступлення. Аднак думаць за свайго чатырохногага партнёра, цалкам кантраляваць усе ягоныя рухі наезнік не можа. Вось чаму варта каню ледзь збіцца з тэмпу, а яшчэ горай — аступіцца, запыніцца і — ляціць жакей на манеж, на бар'ер... І ніхто не можа загадзя сказаць яму, ці лёгка абыдзецца, ці, як у той нікулінскай інтэрмедыі, "ачуняе — рука ў гіпсе".

Прадстаўнік чацвертага пакалення славутых жакеяў Святаслаў Аляксандраў-Серж крыху піжон. Ну, зусім-зусім трошку. Роўна настолькі, каб апраўдаць сваю заліхвацкасць гусарскімі касцюмамі, у якіх ён і яго партнёры выходзяць на манеж. Хаця, я думаю, гульня ў гусараў, усе гэтыя манеры, аксельбанты і ледзьве не абавязковыя вусы зусім неабавязковыя, таму што і так зразумела: якія б вобразы — гусараў, мушкецёраў альбо, скажам, запарожцаў — ні стваралі артысты, асабліва пераўвасабляцца ім няма патрэбы — усё на нашых вачах. І рэч не толькі ў тым, што найскладанейшыя акрабатычныя трукі, якія выконваюцца на конях, пушчаных наўгалоп, — вялікая рызыка, але і ў тым, як артыст выконвае свой нумар — дзёрзка, радасна, вытанчана. І мала хто з гледачоў, што назіраюць за выступленнем жакеяў, ведаюць, колькі бясконцай працы, роспачы і расчаравання стаіць за іх усмешкамі.

Аднак кіраўнік нумара ўпэўнены, што глядач і не павінен гэтага ведаць. "Балячкі — наша прафесійная тайна, — пажартаваў Святаслаў. — Калі зараз пачаць успамінаць усе сінякі і пераломы, якія з васьмі гадоў зарабіў, абавязкова захварэю".

Унук выдатнага артыста расійскага і сусветнага цырка Аляксандра Сяргеевіча Аляксандрава-Сержа, Святаслаў, як і належыць цыркавым дзецям, у манеж выйшаў рана.

— Упершыню дзед выпусціў мяне на гледача ў восем гадоў, -- гаворыць Святаслаў. — А да гэтага цыркавыя "універсітэты", як і ўсе жакеі, пачынаў у стайні. Перад рэпетыцыяй браўся за шчотку-скрабніцу, чысціў коней, прыбіраў у стойлах. Дзед часта казаў: артыст не ў манежы нараджаецца, а за кулісамі. А сапраўдны жакей павінен ведаць каня, любіць, разумець яго. Калі шмат часу праводзіш з канём, з'яўляецца ўзаемны давер. Без яго нават не варта пачынаць рэпеціраваць, — нічога не атрымаецца.




Але гэта адно. А другая важная якасць жакея — уменне валодаць сваім целам. Насамрэч, жакей — каскадзёр манежа, ён заўсёды павінен быць гатовы да любых нечаканасцяў. Вось чаму з дзяцінства дарослыя настоялі, каб я засвоіў розныя цыркавыя жанры. Рэпеціраваў практычна ўсё: акрабатыку, гімнастыку, эквілібрыстыку, нават жангліраванне засвойваў. Цяпер разумею, што не дарэмна. Каб дасягнуць у нашым жанры поспеху, трэба быць вельмі рознабакова фізічна развітым. Ну, а смеласць... Не ведаю... Яна альбо ёсць, альбо яе няма. Калі няма, спрабуеш пераламіць сябе. Не можаш пераламіць, ідзеш з жакеяў куды-небудзь у іншы жанр, дзе паспакайней. Я заўсёды партнёрам кажу: каб стацца сапраўдным жакеем, трэба сябе цалкам аддаваць працы. І, вядома, любіць свой жанр трэба, цырк любіць.

Не-не, гэта не проста прыгожыя словы, тут усё мае сувязь. Я, напрыклад, не веру артысту, у якім не закладзена жаданне спадабацца гледачам. Толькі здаровае імкненне да пашаны вядзе нас кожны вечар на манеж. І прымушае рызыкаваць. Чаго ж хаваць: не было б гледачоў, мы б не рызыкавалі. Навошта?

Базы для падрыхтоўкі жакеяў у нас не існуе. Даводзіцца безупынна эксперыментаваць з новымі партнёрамі. Сапраўднага жакея можна выхаваць, калі вучыць з маленства. А як быць з тымі ўжо дарослымі людзьмі, што прыходзяць да нас? Для мяне галоўнае — здольнасць адчуваць каня. Даўно пераканаўся: можна навучыць чалавека ўсяму: акрабатыцы, гімнастыцы, музыцы, танцам, але толькі не ўменню знаходзіць агульную мову з жывёлай. Гэта пачуццё альбо ёсць, альбо яго няма. Што б там ні казалі, а коні — самыя сапраўдныя нашыя партнёры. Яны залежаць ад нас, а мы — ад іх. Вось чаму мы павінны добра ведаць іх характары, разумець іх слабасці і якія-такія прыхамаці. Абавязкова!

Вось, напрыклад, у нас у трупе асноўны работнік — вялічэзны вараны прыгажун Кузя. Хлопец ён недурненькі, і таму, калі яму мала часу ўдзялілі на рэпетыцыі, пачынае гарэзнічаць падчас прадстаўлення. Не жарт ачкі: вы стаіцё ва ўвесь рост на крыжы каня, збіраецеся выканаць сальта-мартале, а конь раптам рэзка мяняе галоп! Але ж любы трук можна выканаць толькі ў тэмп галопу. Вось і даводзіцца прынараўлівацца, ужо на гледачах усё мяняць: павялічваецца галоп, павялічваецца шпаркасць выканання трукаў.

Агульны ўлюбёнец нашай трупы — Мальчык. Мы ўсе здорава перажывалі, калі ён захварэў на вочы. Зрабілі Мальчыку тры аперацыі, думалі, ужо не работнік ён. І вось чатыры гады ўжо з тых часоў прайшло, цудоўна Мальчык выступае, вясёлы, жыццярадасны, — проста разумнік.

Знешне, можа быць, і не такі ўжо прыгажун наш маленькі далёкаўсходнік Віконт, але артыст ён вельмі таленавіты. Мы спецыяльна навучылі яго ганяцца за людзьмі — кусацца, брыкацца, -- карацей, працаваць у пары з клоунам. Віконт выдатна спраўляецца са сваёй роляй забіякі, і ўсе, хто не ведае яго, думаюць, што ён злосны. Вось што значыць мастацтва пераўвасаблення. А насамрэч Віконт вельмі добры і ласкавы конь. Ніколі не бачыў, каб ён кагосьці паспрабаваў брыкнуць ці ўкусіць, — толькі па камандзе.

— Вы сказалі, што сапраўдны жакей павінен адчуваць каня, а конь адчувае вас?

— Безумоўна. І ў гэтым я пераконваўся шмат разоў. Калі на каня становіцца навічок, жывёла спрабуе скінуць яго. Відаць, ён нейкім чынам нязручны каню. У вопытнага жакея-прафесіянала адбываецца злітнасць з канём, яны робяцца нібыта адзіным цэлым.

Жакеяў часта запрашаюць на трукавыя здымкі ў кіно, і тады хлапчукі просяць у іх аўтографы, на імгненне чапляе іх сваім крылом слава. А жакеі смяюцца і жартуюць адзін з аднаго, таму што ведаюць, што нават самы складаны трук адзін раз выканаць намнога прасцей, чым паўтараць няхай нават больш лёгкі з вечара ў вечар на манежы... Так, яны каскадзёры манежа, і гэтым усё сказана, бо манеж для іх не толькі творчая пляцоўка, але і дом, і надзеі, і мары.

Познім вечарам мы сядзелі ў нумары гатэля Гомельскага цырка ў Святаслава. Перацягнутая жгутом пясць рукі Аляксандрава-Сержа распухла, але жакей не звяртаў на яе ўвагі, толькі зрэдку, задумаўшыся над пытаннем, аўтаматычна дакранаўся да яе другой рукой, моршчыўся. Наступным днём, у нядзелю, было тры прадстаўленні. І ў шпіталь Святаслаў змог заехаць толькі пасля другога. Рэнтген паказаў перелом. Святаслаў паціснуў плячамі: "Ну што ж, значыць, перелом". Яму паклалі гіпс, папярэдзіўшы, што ў строй увойдзе няхутка. Ён кіўнуў: "Добра, буду мець на ўвазе".

А вечарам... зноў адпрацоўваў свой нумар.

**Аляксандр РОСІН**

Мінск-Гомель

## ГАЛІВУД ПАВЕДАМЛЯЕ...

* * *

Майкл Дуглас адмовіўся здымацца ў стужцы "Востраў галаварэзаў", і зараз разглядаецца кандыдатура Кіяна Рыўза на галоўную ролю.

* * *

Кінакампанія "Трайстар" вырашыла адкласці прэм'еру вестэрна "Жывы і мёртвы" з удзелам Шэран Стоўн і Джына Хэкмана да наступнага года. Прычына — няўдача каўбойскіх стужак "Дрэнныя дзяўчынкі" і "Уайт ЭРП".

* * *

Комік Джым Кэры, вядомы па фільмах "Эйс Вентура — дэтэктыў па пошуку хатніх жывёл" браў удзел у фільме "Маска". Ён іграе нешчасліўца, да якога трапляе магічная маска.

* * *

Джулія Робертс у хуткім часе стане самай высокааплачваемай актрысай за ўсю гісторыю кіно. Яна атрымае 13,5 мільёна даляраў за ўдзел у здымках новай версіі чорна-белага класічнага фільма "Тры жанчыны".

* * *

Мэг Раен атрымае за здыманне 9 мільёнаў ад кампаніі "Нью-Лайн Пікчэрз". Прадзюсэры спадзяюцца залучыць да здымання Холлі Хантэр, якая за ролю ў фільме "Піяніна" атрымала "Оскара".

* * *

Галівуд хутка адрэагаваў на арышт акцёра Сімпсана — па абвінавачванні ў забойстве двух чалавек. Студыі і выдавецтвы намагаюцца атрымаць правы на экранізацыю жыцця "зоркі". Акцёры Дэнзел Вашынгтон і Вэсл Снайпс вылучаны на ролю "паўшага анёла".

Як заявіў прадстаўнік амерыканскага тэлебачання: "І ў гэтай гісторыі замяшаны сэкс, грошы, забойства. І ўсё гэта ахутана таямніцай".

* * *



Стывен Спілберг пасля здымання "Спіса Шындлера", здаецца, пасталеў. Але, як вядома, цяга да дзіцячай цацкі ніколі не псуе і нават надта дарослых мужчын. Паведамленне аб запуску чацвёртай стужкі аб Індыяне Джонсе сустрэта паклоннікамі з энтузіязмам. Але ж, акцёр Харысан Форд тэрміново пасталеў і абвясціў публіцы аб тым, што завязвае з Індыянай і акунаецца ў глыбінны, больш філасофскі, кінематограф.

А ці мае ён рацыю — пакажа ўсплыццё.

## А ПОБАЧ... ГАЛІВУДЗЯЦЬ...

У жніўні высаджвае дэсант вялікае аб'яднанне расійскіх кінематаграфістаў — удзельнікаў фестывалю "Балтыйская жамчужына". Наладзілі фэст латвійская фірма "Арткантракт" і яе прэзідэнт, прыгожая жанчына Марына Ліпчанка. Актыўна ўдзельнічае Гільдыя акцёраў кіно Расіі, "Кінатаўр", "Кінашок" і асабліва моцна загартаваны баец Марк Рудзінштэйн. Прэзідэнт "Жамчужыны", зразумела, Івар Калнаньш; журы, вядома, узначаліць Вія Артмане.

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Вольга ІПАТАВА**

Нам. галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**